# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ў ЗША
Published by Byelorussian-American Association, Inc.
33 Norfolk Street
New York 2, N. Y.

PRICE 15 ¢ BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE U.S.A. ЦАНА 15¢

Год VIII. № 59 10 Сакавіка 1957 NEW YORK, N. Y., U. S. A. March 10, 1957 Vol. VIII. № 59

## З кругагляду Новага Году

1957 год выклікае ў сэрцы кажнага Беларуса цэлую чараду бадзёрых успамінаў, што ўздымаюць надзею на лепшую будучыню. Гэта саракагодны юбілей арганізуюча-канструктыўных гістарычных падзеяў. Бо ад 25-га Сакавіка 1917 году, ад першага ў гэным годзе нацыянальнага беларускага зьезду ў Менску, што выдзяліў зь сябе Беларускі Нацыянальны Камітэт, праз крыху пасьлейшую арганізацыю Цэнтральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў і Партыяў, праз арганізаваньне вайсковых Радаў як на франтох у расейскай арміі, так і ў сталіцы Менску Цэнтральнае Вайсковае Беларускае Рады, праз злучэньне ўсіх нацыянальных арганізацыяў у Вялікую Беларускую Раду, Беларусы ў гэтым-жа 1917 годзе падыйшлі да Усебеларускага Нацыянальнага Кангрэсу — гэтага найважнейшага фактару ўсіх далейшых гістарычных падзеяў у беларускім нацыянальна-вызвольным жыцьці й змаганьні. З другога-ж боку, гэты-ж год уздымае цэлую чараду сумных ды трагічных успамінаў. Гэта трыццатыя ўгодкі трагічнае спробы аднаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы зь Мітрапалітам Мэлхісэдэкам на чале, а таксама здушэньня дзейнасьці беларускіх каталіцкіх сьвятароў у Заходняй Беларусі пад Польшчай; гэта дваццатыя ўгодкі завяршальнага разгрому нацыянальнае дзейнасьці ў БССР, у выніку якога рэшткі нацыянальных кадраў Беларускага Народу былі або адразу фізычна зьнішчаныя, або зьліквідаваныя высылкамі ў бальшавіцкія канцэнтрацыйныя лягеры сьмерці; гэта таксама дваццатыя ўгодкі блізу поўнае ліквідацыі беларускіх арганізацыяў польскім урадам у Заходняй Беларусі. Зьбег інтарэсаў бальшавіцкае Масквы й нацыяналістычнае Польшчы ў справе прыгнёту Беларускае Нацыі належыць да тых трагічных акалічнасьцяў сучаснае эпохі, што адзначаецца намаганьнем знайсьці і ўсталіць мірныя добрасуседзкія дачыненьні між народаў ды адхіліць галоўнае міжнароднае зло — бальшавізм.

Азіраючы нашае нацыянальнае жыцьцё ў сувязі з бадзёрымі й сумнымі юбілеямі, міжвольна запыняешся як на здабытых вартасных пазыцыях і фактах, так і на сумных наяўнасьцях і перашкодах да жаданае волі.

Час спрэчак за тое, ці Беларусы здольныя жыць самастойна й ці Беларусь мае эканамічныя рэсурсы да незалежнага жыцьця, ужо мінуў. Беларуская справа пастаўленая на міжнародны форум, і цяпер нашая праца павінна канцэнтравацца каля належнага моцнага падтрыманьня сваіх дамаганьняў, асабліва маючы на ўвеце час вызваленьня вялікага ліку народаў, у тым і нашага, з бальшавіцка-маскоўскае няволі. З гледзішча-ж дачыненьняў да нас нашых заўсёды „добрых" апякуноў справа пасунулася наперад няшмат. Ні з боку Масквы, ні з боку Варшавы ня відаць жаданьня бачыць Беларусь сваім добрым суседам, але назіраецца ўсё тая-ж прагнасьць мець яе ўсю (а для менш моцнага — хоць частку) „добраю" нявольніцаю. І, што зусім натуральна, справа незалежнасьці Беларусі будзе залежаць у найбольшай меры ад становкага падтрыманьня яе самым народам.

Пара й гістарычныя абставіны вымагаюць цеснага задзіночаньня ўсіх нацыянальных сілаў. Нажаль, мы, эмігранты, ня маем даволі дадзеных аб нацыянальным патэнцыяле народу на Бацькаўшчыне. Бальшавізм і русыфікацыя рабілі й робяць нацыянальныя спусташэньні на Беларусі. Аднак, ці малы лік фактаў, што зь цяжкасьцяй прасочваюцца з-за зялезнае заслоны, даюць нам надзею й пэўнасьць, што ў жудасных катаржальных абставінах жыцьця жаданьне волі ўсьцяж узрастае. І ў часе кановых падзеяў, мы верым, Беларусы ўздымуцца да аднэй мэты, да незалежнага жыцьця, уздымуцца як на Бацькаўшчыне, так і разагнаныя па Савецкай імпэрыі на „цаліну", у Сібір, у Казахстан, на далёкі Ўсход і на дзікую поўнач, так і раськіданыя, па сьвеце, на эміграцыі.

З пагляду на тое, што новая беларуская эміграцыя рассыпалася па ўсім вольным сьвеце і ўздымае свой голас у вабарону правоў Беларускага Народу на незалежнасьць, роля яе ў здабыцьці незалежнасьці ня будзе апошняй. Натуральна, роля эміграцыі будзе тым важнейшаю, чым больш яна выкажацца ў канструкцыйнай працы, кіруючыся адзінаю мэтай — волі й незалежнасьці Бацькаўшчыны. Наяўнасьць розных нацыянальна-палітычных угрупаваньняў не становіць трагедыі ў гэтым пытаньні. Нельга жадаць ад усіх адналітасьці ў думках, у вацэне падзеяў і фактаў, а таксама ў спосабах дзеяньня. Усё, што робіцца карыснае для агульнае справы, увойдзе ў вагульны біляно вызвольнае працы як дадатны складан. Затое ненармальнае й шкоднае з гледзішча нацыянальнага дзеяньне тых чыньнікаў, што цэнтрам свае ўвагі й працы ставяць разбурэньне іншае, нялюбае ім, нацыянальнае плыні.

Калі мы перагледзім выпушчаную некаторымі беларускімі ўгрупаваньнямі прэсу, дарэчы, выдаваную вельмі неахайна й няпісьменна, дык міжвольна запынімся на сумнай зьяве: асьвятленьня пазытыўнае дзейнасьці як іншых беларускіх арганізацыяў, так і рэпрэзэнтаваных дадзенаю групоўкаю — блізу няма; у бальшыні прэса запоўненая артыкуламі дэструкцыйнага характару, правакацыйнымі насьвятленьнямі ды інсынуацыямі. Падаваць факты не канечна, але іх шмат. Няхай кажны сьведамы Беларус уважае сам ды задумаецца над гэтым фактам. Трэба сьцьвердзіць адно, што прэса гэтая падсычваецца пераважна тымі „традыцыйнымі носьбітамі" — або беспасярэдня іхнымі спадкаемцамі — што творцаў Акту 25-га Сакавіка пагражальна абзывалі „изменниками родины", „польскими шпионами" ды іншымі правакацыйныімі мянушкамі — ды й цяпер паслугоўваюцца падобнымі „эпітэтамі". Тымбалей сумна, што гэткія дзеячы знаходзяць яшчэ спадарожнікаў сярод Беларусаў, якім запраўды, справа беларуская важнейншая, а не „общеросийская".

Для большага задзіночаньня й збліжэньня ў ваднэй мэце — вызваленьні Бацькаўшчыны — для дасягненьня належных вынікаў не канечна ліквідаваць апазыцыйныя плыні ў нашай вызваленчай працы, але станоўка трэба адкінуць дывэрсыйныя чыньнікі, і гэта кажны Беларус павінен добра сабе ўсьведаміць.

---

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ
Ў НЬЮ ЁРКУ

ветліва просіць усіх суродзічаў узяць удзел
у ўрачыстым сьвяткаваньні

**39-ЫХ**
**УГОДКАУ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ**
**БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

паводля наступнай праграмы:

| | |
|---|---|
| 23 сакавіка 1957 г. | а 1 гадзіне папаўдні — радыёвая перадача із станцыі WEVD на хвалях AM 1330 і FM 97,9; |
| 24 сакавіка | а 10 гадзіне раніцы — Урачыстая Божая Служба ў царкве Сьвятой Тройцы (345 Іст, 4 вуліца ў Нью Ёрку), якую адправіць Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап Васіль у саслужэньні Саборнага Духавенства; |
| 24 сакавіка | а 2:30 папаўдні — Урачыстая Акадэмія, прысьвячаная Дню 25 САКАВІКА ў Biltmore Hotel (music room) -- Мэдысон Эвэню й 43 вуліца ў Нью Ёрку, даезд да станцыі Grand Central. |

## ПРАКЛЯМАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА ДНЕМ БЕЛАРУСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ў ШТАТАХ НЬЮ ЕРК і НЬЮ ДЖЭРЗЫ

### ЛІСТЫ ДА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ

STATE OF NEW YORK EXECUTIVE CHAMBER ALBANY

*Dear Mr. Mierlak* *February 21, 1957*

*Governor Harriman has asked me to acknowledge and thank you for your letter of February 14 in regard to proclaiming March 25, this year, as Byelorussian Independence Day in our State.*

*The Governor will be pleased to issue such a proclamation. When it is signed, an original of the proclamation will be sent to you.*

*All good wishes*

*Sincerely,*

*George F. Williston*

---

STATE OF NEW JERSEY OFFICE OF THE GOVERNOR
*TRENTON*

*Dear Mr. Tuleyko*

*I shall be happy to proclaim Monday, March 25th, as Byelorussian Day in New Jersey. We in the free world all look forward to the day when the Byelorussian Democratic Republican stands independent once again.*

*Sincerely,*

*Robert B. Meyner*
*Governor*

*March 5, 1957*

# ДЖОРДЖ ВАШЫНГТОН

Для здабыцьця незалежнасьці ды ўстанаўленьня моцнае й саліднае ўлады амэрыканскаму народу трэба было мець правадыроў дваякага роду. Найперш патрэбен быў здольны генэрал, каб весьці яшчэ недасканальнае войска супроць брытанцаў, а другое, — разумны дзяржаўны муж, які кіраваў-бы новую нацыю. На шчасьце Амэрыкі, і генэрал і дзяржаўны кіраўнік знайшоўся ў ваднэй асобе Джорджа Вашынгтона, які слушна быў названы „Бацькам свайго Краю".

Як ваеньнік Вашынгтон паказаў сябе стойкім і непахісным у сваіх імкненьнях. Першымі днямі рэвалюцыйнае вайны нявышкаленыя, дрэнна адзетыя й слаба харчаваныя амэрыканскія войскі цярпелі страшэнныя няўдачы. І ў 1780 годзе, па 4-ох гадох неразьвязанага змаганьня, цэлы край быў у зьнямозе. Але Вашынгтон ніколі не ўпадаў у роспач і ня траціў веры. На працягу ўсяго цяжкога змаганьня ён застаўся постацяй павагі й шчырае маральнае стойкасьці. Ён быў перакананы ў справядлівасьці таго за што Амэрыканцы змагаліся і ў немінучасьці перамогі.

Поруч із сваім выдатным ваеньніцтвам, стойкасьцяй і адвагай Вашынгтон меў яшчэ адну якасьць, якая зрабіла яго ўлюбенцам народу. Якасьць гэтая — веліч ягонага духу. Ён выказаў гэтую якасьць, як галоўнакамандуючы амэрыканскім рэвалюцыйным войскам. Колькісь генэралаў інтрыгавала супраць Вашынгтонавага кіраўніцтва. Але калі хто-небудзь з гэтых генэралаў апыняўся ў цяжкім палажэньні, Вашынгтон хутка прыходзіў з дапамогай, пасылаючы свае найлепшыя аддзелы. Ён прымаў на сябе віну ў часе няўдачы і адмаўляўся ад славы ў часох перамогі. Навет калі некаторыя групы спрабавалі выступаць супраць яго, Вашынгтон не хацеў траціць энэргіі на спрэчкі, наадварот, ужываў усе свае здольнасьці і красамоўства, каб узьняць людзей да высілку й ахвярнасьці. „Нашая мэта высакародная" — пісаў ён: „гэтая мэта ўсяго чалавецтва".

Веліч ягонага духу паказала сябе зноў у пэрыяд зьбянтэжанасьці, што пачаўся па здабыцьці незалежнасьці. Вашынгтон бачыў, што здабыцьцё свабоды — гэта яшчэ ня ўсё, і яна павінна быць зраўнаважаная аўтарытэтам. І хоць яму хацелася адыйсьці ад грамадзкага жыцьця на сваю фарму ў Вірджыніі, ён усё-ж адгукнуўся на заклік сваіх суродзічаў стаць на чале канвэнцыі, якая апрацоўвала канстытуцыю, ды пасьля стацца першым Прэзыдэнтам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.

У вабедзьвюх ролях ён узяў на сябе функцыю пасярэдніка між супярэчнымі групамі й паглядамі. Як прэзыдэнт, ён увёў у свой габінэт правадыроў дзьвюх супярэчных партыяў — Томаза Джэфэрсона й Аляксандра Гамільтона. Ён аднолькава імкнуўся да нутранога супакою ў краі й да вонкавага міру зь іншымі гаспадарствамі рэшты сьвету.

Не зважаючы на варожыя настроі, узьнятыя вайной, Вашынгтон не завагаўся падпісаць умову міру зь Вялікай Брытаніяй. Ён верыў, што прынцыповасьць гэта ўсё, і што палітыка нацыі мусіць мець маральную вагу.

Амэрыцы запраўды пашчасьціла знайсьці ў часе свайго крызысу гэткага чалавека, як Джордж Вашынгтон. Але ягоныя якасьці, ягонае разуменьне часу, сталасьць мэты, узвышанасьць ягоных паглядаў і адданасьць справядлівасьці — зрабілі з Вашынгтона больш, чымся правадыра нацыі. Ад ягоных дзён і дагэтуль Вашынгтон агульна прызнаны постацяй запраўднага сусьветнага значэньня. Ягоныя асабістыя рысы, адданасьць свабодзе й дэмакратыі, за якія ён змагаўся, пераходзяць нацыянальныя межы.

# Значаньне "рэабілітацыі" дэпартаваных народаў у Савецкім Саюзе

Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму апублікаваў аналіз „Указу" Вярхоўнага Савету СССР ад 11-га лютага 1957, што дазваляе малым падсавецкім народам, выселеным у 1943-44 гадох на выгнаньне, вярнуцца ў іхныя родныя краі.

Пастанова Вярхоўнага Савету выпраўляе несправядлівасьць, учыненую народам — балкарскаму, чэчэнскаму, інгускаму, калмыцкаму й карачаеўскаму, аднаўляючы іхныя нацыянальныя аўтаноміі, дазваляе зрабіць наступныя высновы.

1. „Указ" выкліканы не якімі-небудзь гуманітарнымі пачуцьцямі савецкіх правадыроў, але патрэбай супакоіць небясьпечныя хваляваньні ў краі, што сьвечаць пра рост супраціву савецкіх народаў цэнтральнай уладзе.

2. Адначасна гэтым „указам" савецкія правадыры прызнаюць, што ў Савецкім Саюзе было праведзенае масавае народагубства; аднак, гэтым не даецца ніякае зарукі, што яно ня будзе паўторанае ў будучыні.

3. „Указ" таксама выяўляе дачыненьне калектыўных кіраўнікоў да сталінскае спадчыны: змушаныя да скасаваньня асабістых мерапрыёмстваў Сталіна, яны ўсё-ж трымаюцца ягоных агульных мэтадаў і спрабуюць захаваць падобны да сталінскага аўтарытэт, гэтак канечна патрэбны ім (навагодняя прамова Хрушчова).

4. „Указ" — гэта адзін з цэлага ліку захадаў калектыўнага кіраўніцтва стварыць дэмакратычны фасад і выклікаць спрыяльную грамадзкую думку, як унутры, так і за межамі, а ў дадзеным выпадку — пераважна сярод народаў Усходу.

5. Факт, што крымскія Татары й павалжанскія Немцы ня ўлучаныя ў лік „амнэставаных", выясьняецца тым, што справа Татараў зьвязаная з перадачай Крыму Украіне (1954) і тым, што рэспублікі абодвух народаў былі поўнасьцю заселеныя нятубыльчым жыхарствам. Трэба адзначыць, што „указ" ня можа загладзіць усіх тых стратаў і крыўдаў, што былі ўчыненыя гэтым народам, калі іхная маемасьць была адабраная ў часе ліквідацыі гэтых рэспублікаў. Зварот гэтых выгнанцаў значыць, што ім трэба пачынаць сваё жыцьцёвае ўладжаньне ў сваіх родных краёх зусім нанова. Таму „указ" разьлічаны на больш прапагандовы эфэкт, чымся на практычнае выкарыстаньне.

# ЧАМУ?

Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму прыняў на сябе пачэснае, а разам з тым і адказнае заданьне інфармаваць сьвет аб стане народаў у камуністычнай няволі ды падаваць праз радыё за зялезную заслону інфармацыі аб падзеях і жыцьці у вольным сьвеце.

Прыглядаючыся аднак да працы праводжанае такімі апекаванымі Камітэтам інстытуцыямі, як „Інстытут вывучэньня СССР" і радыё „Вызваленьне" атрымліваецца ўражаньне, што праца гэтая носіць больш экспэрымэнтальны характар, не адзначаючыся глыбака прадуманым ды грунтоўна ўстаноўленым палітычным кірункам.

З аднаго боку вычуваецца, што Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ня мае даволі матар'яльных пасяродкаў, каб весьці больш эфэктыўнае антыкамуністычнае змаганьне, каб пашырыць ды паглыбіць працу сваіх інстытуцыяў. Пагляд пра патрэбу такога паглыбленьня ды пашырэньня працы выказаў быў сп. А. Адамовіч на VI канфэрэнцыі Інстытуту, якая адбылася 28-30 ліпеня 1955 г. у Мюнхене, і ягоныя прапановы былі падтрыманыя ўдзельнікамі канфэрэнцыі. Беларускія прадстаўнікі заўсёды дамагаліся пашырэньня праграмаў ды засягу перадачаў беларускае сэкцыі радыя Вызваленьня. Мне думаецца, што ЗША маюць магчымасьць і маюць даволі пасяродкаў, каб паставіць інфармацыю на належнай вышыні й лепш, як яна вядзецца Савецкім Саюзам. Перш-наперш, на Захадзе ёсьць цяпер вялікая колькасьць людзей, якія жылі ў Савецкім Саюзе да 2-ой сусьветнай вайны, або пакінулі яго нядаўна. Некаторыя з гэтых людзей маюць адпаведную асьвету й могуць быць выкарыстаныя як працаўнікі ў інфармацыйных інстытуцыях. Другое — Захад мае магчымасьць перадаваць праз радыё тое, чаго найбольш баіцца СССР, а гэта гістарычную праўду зь мінуўшчыны нерасейскіх народаў, ды выклікаць у слухачоў пашану й любасьць да свайго народу й прагнасьць да волі. Якраз гістарычную мінуўшчыну й культуру, прыкладам, беларускага народу Саветы перакручваюць і хвалышуюць, каб утаварыць гэтаму народу, быццам ягоная вызвольная гісторыя пачалася й праводзіцца толькі камуністымі. Ня верыцца, каб гэта было ў інтарэсе Амэрыкі, ці якога небудзь іншага дэмакратычнага народу, ня даць магчымасьці прадстаўніком беларускага народу праз радыё расказаць гістарычную праўду пра слаўную мінуўшчыну, пра дзяржаву ў мінулым (Вялікае Княства Літоўскае), што была наймагутнейшая на ўсходзе Эўропы ды мела прыкладны дэмакратычны лад. Дык зусім незразумела, чаму Інстытут вывучэньня СССР і радыё „Вызваленьне" не выкарыстоўваюць беларускіх навукоўцаў і інфармацыйнай сэкцыі радыё дзеля насьвятленьня пытаньняў зь беларускае гістарычнае мінуўшчыны, а канцэнтруюцца толькі на пэрыядзе навейшага часу ад 1917 году. Трэцяе — гэта абмежаньне засягу перадачаў у беларускай мове толькі прасторам БССР, чым пазбаўляецца магчымасьці слухаць беларускае радыё моладзь, што адбывае вайсковую службу ў аддзелах савецкае арміі (як ведама, гэтыя аддзелы раськіданыя ад Нямеччыны аж да скрайняга Далёкага Усходу), а таксама моладзь, што „дабраахвотна - прымусова" вывезеная з бацькаўшчыны на апрацоўваньне пустынных земляў і іншыя працы, дый наагул усе Беларусы высланыя на прымусовыя працы ў канцэнтрацыйныя лягеры.

Усе мы добра ведаем, што значыць туга па родным краі, калі яго трэба пакінуць прымусова, і якая вялікая радасьць, калі на далёкім выгнаньні раптам чуеш перадачу ў роднай мове аб сваёй роднай старонцы. Маленства, сям'я, родная хата зь вялікай сілай ўсплываюць ў памяці, ды пераносіць думкі да таго кута, дзе нарадзіўся. І тут расказаць яшчэ пра слаўную мінуўшчыну дзядоў і прадзедаў, расказаць пра тое, што ад савецкага падуладнага шчытна хавалася або перакручвалася. Думаецца, што такія радыёвыя перадачы былі-б эфэктыўныя й карысныя з гледзішча праўдзівае інфармацыі ды палітычнае мэты.

Дык цікава, чаму гэтага ня робіць радыё „Вызваленьне" і ў чыім гэта інтарэсе?

*В. Клецкі*

**Ад рэдакцыі.** Зацемку гэтую мы атрымалі ад нашага суродзіча й суграмадзяніна, што жыве ў амэрыканскай правінцыі й таму ня мог быць на нядаўным спатканьні Беларусаў з прадстаўніком Амэрыканскага Камітэту ў Нью Ёрку, дзе таксама закраналіся й часткава выясьніліся зачэпленыя ім тут пытаньні. Мяркуем, што гэтая зацемка прычыніцца да далейшага (й канчальнага) выясьненьня ды ўрэгуляваньня тых справаў, што ў ёй закранаюцца.

### ПРАДСТАЎНІК АМЭРЫКАНСКАГА КАМІТЭТУ НА БЕЛАРУСКІМ СХОДЗЕ

3-га лютага Акруговая Управа зладзіла вечар із прадстаўніком Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму спадаром М. Тэрпакам. На сход прыбыло каля 40 Беларусаў зь Нью-Ёрку й ваколіцаў. Спадар М. Тэрпак паінфармаваў напачатку аб дзейнасьці Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму, аб дзейнасьці радыя „Вызваленьне" й аб Інстытуце Вывучэньня СССР. Быў высветлены фільм з прамовай старшыні Камітэту спадара Сэрджанта аб дзейнасьці Камітэту, а пасьля слухалі колькі перадачаў Беларускай Сэкцыі радыя „Вызваленьне".

У канцы вечару завязалася жвавая дыскусія, у якой сп. М. Тэрпак даваў выясьненьні на закранутыя пытаньні. У выказваньнях моцна падчырквалася, каб у беларускіх перадачах радыя „Вызваленьне" было больш беларускае тэматыкі ды каб быў пашыраны засяг радыяперадачаў

# СПОВЕДЗЬ СЯБРЫ КПЗБ

Беларускі беластоцкі тыднёвік „Ніва", карыстаючы з „адлегі" у Польшчы ды зь пераменаў леташняй польскай „кастрычніцкай рэвалюцыі", асьмеліўся надрукаваць цікавую споведзь былога сябры КПЗБ (Камуністычнай Партыі Заходняй Беларусі). Споведзь гэтая раскрывае тую трагедыю й духовы разлад, якую перажылі й далей перажываюць ідэйныя сябры былой КПЗБ пасьля сутыку з „сацыялістычным рэалізмам" савецкага й польскага выданьня. Вось найбольш характэрныя прызнаньні з гэтай даўгой споведзі, „аўтабіяграфіі":

... З кажным годам штораз горш дзеялася Беларусам у Польшчы. Ліквідавана Грамаду і беларускія школы. Утворана Картуз Бярозу... Давялося й мне пакаштаваць палкі дэфы, пасьля турмы ў Беластоку і Вронках. Пяцера год, на працягу якіх знаходзіўся я ў турэмным зьняволеньні... моцна падарвалі маё здароўе... Савецкую дзяржаву, яе лад, яе кажнае дасягненьне й пачынаньне мы моцна ідэялізавалі. У кажнага з нас узьнікла нейкая сьляпая, бязмежная вера. Мабыць, гэты някрытычны й сьляпы пагляд на СССР у той час быў нам і патрэбны...

Дзень 17-га верасьня 1939 году... Ад усходу наступала чырвоная армія, нясучы Заходняй Беларусі доўгачаканае вызваленьне... Пачынаўся новы пэрыяд у маім жыцьці... Аб гэтай-жа ўладзе я марыў у панурыя дні майго жыцьця, падчас забастовак і ў турэмных камэрах.

Аднак, у маё сумленьне камуністы з часам пачалі ўкрадацца нейкія сумненьні. Я быў камуністым-Беларусам. Добра разумеў пралетарскі інтэрнацыяналізм. Аднак, я вельмі кахаў свой просты, беларускі люд, любіў вершы Купалы й апавяданьні Коласа. Але нейк тут, дзе была Беларуская Рэспубліка, вельмі мала знаходзіў беларускасьці.

Ува ўсіх установах чулася толькі расейскую мову, большасьць урадчікаў — Расейцы, у школах тое самае. Аднойчы з адным КПЗБ-оўцам я доўга размаўляў на гэтую тэму. Першыя хісткія нясьмелыя парасткі сумненьня, рашчараваньня хутка расьлі ў маім сумленьні.

Пасьля ўначы нейдзе „зьнікалі" дзеячы Грамады, выдатныя КПЗБ-оўцы й іншыя дзеячы беларускага нацыянальна-вызваленчага руху на Беласточчыне. Людзі шапталі, што арыштавала іх НКВД, як шпікоў і дывэрсантаў у рабочым руху. Я ніколі ў гэта не паверыў, бо іх добра ведаў... Народ маўчаў. Я тлумачыў сабе, што калі гэта патрэбна дзеля дабра сацыялізму, то, відавочна, так павінна быць. Інакш таксама я ўяўляў сабе калектывізацыю гаспадаркі.

Гітлераўская акупацыя зноў прымусіла нас ісьці ў падпольле... У 1944 годзе другі раз вітаў чырвоную армію... Узялі-ся... мы зноў за работу, а было яе тады нямала. Арганізуючы народную ўладу, закладаючы партыйныя арганізацыі, часта трэба было браць у рукі аўтамат і йсьці граміць фашыстоўскія банды.

Шмат беларускіх дзеячоў пакінула свае родныя вёскі й выехала ў Савецкі Саюз, многія загінулі ад бандыцкіх куль, некалькі старых камуністых зноў нейдзе „зьнікла" ўначы „дзеля дабра сацыялізму" — бэрыяўцы дзейнічалі.

Першыя гады народнай улады праходзілі ў бязупыннай барацьбе й напружанай працы, ня было часу на філязофскія разважаньні. У 1948 г. адбыўся радыкальны паварот у палітыцы нашае партыі. Разам з усёй партыяй я кляймаваў Гамулку, Ціта, дзейна падтрымліваў новую палітыку ў вёсцы. Часам і нараджаліся нейкія сумненьні, зрэшты, камісія партыйнага кантролю вельмі хутка разьлічвалася з такімі, што адважваліся „сумнявацца".

Мінала шасьцігодка. Штогод ПКПГ публікавала „даўжэзныя" паведамленьні аб нашых дасягненьнях. Лічбы гаварылі так, а жыцьцё накш. Лічбы гаварылі, што жыцьцёвы ўзровень бязупынна павышаецца, а ля крам стаялі ўсё большыя чаргі. Лічбы гаварылі аб разьвіцьці сельскай гаспадаркі, а ў маёй вёсцы ў сялян валіліся хаткі й гумны, зімой у печах палілі „плотам". У размовах зь людзмі адчувалася горыч. Здавалася мне аднак, што гэта толькі часовыя цяжкасьці, што наш шлях не зьяўляецца лёгкім, і г. д.

Сьмерць Сталіна прымусіла мяне дадумвацца многага. Усе вакол мяне спрачаліся, крытыкавалі (часам непарушныя правілы), бачылі больш, ніж я — мне ня можна было так рабіць, сумленьне камуністы прымушала верыць ува ўсё тое, што прапаведвала партыя.

У мяне адбывалася нутраная барацьба. На партыйных сходах гаварылася сухой стандартнай мовай. Пасьля сходаў члены партарганізацыі ціха гаварылі паміж сабой аб цяжкасьцях, аб тым, што ўсё даражэе, аб „трыманьні за морду", судох, праследваньнях старых дзеячоў.

Тут мая вера, што ўсё гэта дзеецца „дзеля дабра соцыялізму" моцна пахіснулася.

XX-ты Зьезд КПСС, культ асобы, справа Югаславіі й Райка ўзьдзейнічалі на мяне, як кубак халоднай вады. У мяне нешта нутрана пачало ламацца, адчуў у сябе вялікую пустку... Мабыць, першы раз у жыцьці я сьмела выступаў на партыйным сходзе... людзям адкрываліся сэрцы й зашнураваныя вусны.

Пазнань, потым VIII Пленум, прамова Гамулкі, хада падзеяў, за якімі не пасьпявала чалавечая думка. Каторы ўжо раз я перажываў нешта вялікае, што адразу ня мог зразумець.

Старыя ўяўленьні, за якія я столькі гадоў змагаўся як камуністы, пачалі ў мяне змагацца з новымі, якія „наступалі на ўсім фронце". Шчырыя размовы зь людзмі, слова сувэрэнітэт, — гэта-ж новае, гэта-ж праўда, якую мы на працягу цэлых год не маглі зразумець.

Трагэдыю Вэнгрыі перажываю як чалавек і як камуністы. Аднолькава турбуе лёс сацыялізму, як і нацыянальныя справы Вэнграў. Вось да чаго даводзіць патаптаньне нацыянальнай гордасьці, вось да чаго давёў сталінізм!

... Цяпер шмат чытаю, слухаю прамоваў, бываю на сходах, прыслухоўваюся да галасоў простых людзей, колькі-ж розных справаў пачынаю разумець толькі цяпер. У сучасны момант накш бачу нацыянальную праблему, паіншаму разумею словы: камунізм і народ. Значыць, чалавек бязупынна вучыцца."

Гэткая вось публічная споведзь вырвалася з „расшнураваных вуснаў" былога сябра КПЗБ. Яна раскрывае ўвесь духовы разлад не аднаго аўтара гэтай „аўтабіяграфіі", але й тысячаў падобных да яго, раней і „сьляпых" і „бяскрытычных" — і зь Беласточчыны, і зь земляў Заходняй Беларусі, што цяпер у складзе БССР, а дзе вуснаў яшчэ пакульшто ніхто не „расшнураваў". Яшчэ больш гэткіх сяброў КПЗБ, якім „сумнявацца" ўжо не даводзіцца. Іх „для дабра сацыялізму" пахавалі турмы НКВД, або прысыпалі сьнягі сібірскіх канцэнтрацыйных лягероў.

Запраўды даўгі, нязвычайна даўгі шлях давялося прайсьці беларускім камуністым, каб дайсьці да простай і даўно на сьвеце ведамай праўды — патрэбы сувэрэнітэту, гэта значыць свабоды й незалежнасьці для народу. А пра крывавы сталінскі тэрор і масава мардаваных быццам „для дабра сацыялізму" работнікаў, а між імі і мілёнаў беларускіх сялянаў і работнікаў, беларускія камуністыя дазналіся толькі цяпер з самой Масквы, хоць народ беларускі й сьвет ведае пра гэта ўжо ад колькі дзесяткоў гадоў.

У „аўтабіяграфіі" няясна й недасказана, наколькі глыбака аўтар запраўды зразумеў тую праўду, што ўсе ягоныя мукі й „змаганьні" пад камандаю кіраванае з Масквы камуністычнае партыі ніколі ня былі ані „для дабра сацыялізму", ані тымбольш для дабра свайго беларускага народу. Была гэта звычайная рабская служба для імпэрыі „Вялікага рускага народа", у безаглядна эксплятаваньня калёніі якога сяньня абернутыя ня толькі Беларусь і Польшча, але й дзесяткі іншых краінаў. Вось чаму беларускія дзеячы „зьнікалі" й „зьнікаюць", а расейскія ўсё шырэй расьсядаюцца па ўрадах і ўстановах БССР. Вось чаму ў сялянаў Беласточчыны „валяцца хаты й гумны", калі тым-жа часам у Маскве мармарам навет чыгуначныя станцыі высьцілаюцца.

Дык ці былы „сябра КПЗБ" на трыццаць і каторым там годзе вернае партыйнае службы

(заканчэньне на 4 б.)

Шчырапаважанага Др. Станіслава Станкевіча

*віншуем зь пяцьдзесятгодзьдзем жыцьця й трыццацьгодзьдзем грамадзка-палітычнай і навуковай працы, ды зычым шмат год, шмат шчасьця й здароўя для далейшай такой-жа плённай працы на дабро Бацькаўшчыны.*

*Рэдакцыйная Калегія „Беларуса"*

# ЗАЦІСЬНЕНЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ВУЗЛЫ

Канфлікт новапаўсталага гаспадарства Ізраэлю з арабскімі гаспадарствамі — Эгіптам, Сырыяй, Іарданам, Саўды-Арабіяй — выліўся, як ведама, летась у збройнае выступленьне Ізраэлю супраць Эгіпту, дыктатар якога Насэр намагаўся перанясьць кіраўнічую ролю сярод арабскіх гаспадарстваў. Повадам да збройнага выступленьня паслужыла інтэнсыўнае канцэнтраваньне на Эгіпскай тэрыторыі савецкае зброі, вялікую колькасьць якое й захапіла ізраэльская армія. Відавочна, гэтая акалічнасьць спрычынілася й да блізу адначаснага збройнага выступленьня Ангельшчыны й Францыі супраць Эгіпту. Хоць гэтае выступленьне было раптоўнае й ня ўзгодненае з урадам ЗША, аднак яно спрычынілася да больш энэргічнага дзеяньня Амэрыкі ў сэнсе запыненьня савецкае экспансіі на Сярэднім Усходзе. У выніку пастановы Задзіночаных Нацыяў, Ангельшчына й Францыя адклікалі свае войскі з зоны Суэцкага каналу. Пакідае занятую Эгіпскую тэрыторыю й Ізральская армія, але спакою на Сярэднім Усходзе ня відаць.

У найбольшай меры ўладжаньне гэтага канфлікту будзе залежаць ад паставы Савецкага Саюзу. Ня вылучаная магчымасьць, што Саветы перастаўляць сваю палітыку на больш мірны тон. Тады магчыма часовае ўладжаньне. Аднак Сярэдні Усход будзе заўсёды тым пунктам, адкуль можа пачацца ваенная завіруха. І першаю прычынаю станецца не Ізраэльска-Арабскі канфлікт, а Сярэдня-Усходняя нафта, якая мае вялікае значаньне ў прамысловасьці ўсяго Заходу і, пэўна-ж, мела-б вялізарнае значаньне ў ваенным змаганьні Заходу з Саветамі. Дзеля гэтага Саветы на адмовяцца ад спробаў захопу нафтававых крыніцаў пад свой кантроль. І дзеля гэтага ваенная пагроза будзе стала вісець над Сярэднім Усходам.

Другое надзвычайна цяжкое пытаньне да залагоджаньня — Нямецкае. Падзел Нямеччыны на акупацыйныя зоны адразу стварыў абставіны, якія не даюць магчымасьці наладзіць сталы мір. Праз колькі год па вайне палітычная думка ўсяго сьвету ацэньвае гэткае становішча, як ненармальнае. Але калі падзел Нямеччыны на зоны адбыўся лёгка, дык справа задзіночаньня яе, бадай, немагчымая мірным парадкам. І, зноў-жа, немагчымая з прычыны таго славутага „няўмешваньня" Саветаў у нутраныя справы народаў. Саветам пагадзіцца на вольныя выбары ў Нямеччыне, якія нямінуча прывядуць да адмежаваньня Нямеччыны ад Саветаў, — значыла-б зрабіць не адно „крок назад", але й пачаць агульнае адступленьне ад усяе свае камуністычнае сыстэмы, якая вымагае цяглага пашырэньня свайго засягу. Ведаючы-ж добра дачыненьне да маскоўскага бальшавізму ўсіх новапаняволеных народаў, Крэмль не пагодзіцца на адвод сваіх войскаў з акупаваных тэрыторыяў. Справа задзіночаньня Нямеччыны — гэта другі вузел, які ня ўдасца разьвязаць, не адарваўшы якогась канца.

# ЗАКЛІК

*„Госпадзі! Лаская Твая да нябёсаў, а Праўда Твая да аблокаў сягае!" Так усклікае прарок Давід, шчодра абдараны Ласкаю Божаю. І мы, беларусы, можам разам зь ім натхнёна славіць Міласэрнага Госпада, бо-ж і нас Ён абдарыў жыцьцядайнаю Ласкаю Сваею: дараваў нам нашую слаўную сьв. Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, якую ўсе мы любім, і за якую стала горача дзякуем Госпаду. Яна — нашая любові поўная Маці! Яна нас пацяшае, узмацняе, Духам Сьвятым ахінае, да вялікіх чынаў на Славу Божую й дабро нашага шматпакутнага Народу Беларускага падымае, бо яе каменем вуглавым ёсьць Сам Сын Божы, Спасіцель наш, Каторы ўсім нам жадае насьледаваць Валадарства Свабоды Яго тут на зямлі й там на Небе.*

*Ужо больш пяці гадоў мы служым на Славу Божую й дабро нашае Радзімы-Беларусі у Царкве Сьвятой Тройцы ў Нью-Ёрку: 345 Іст, 4 вул. Усе мы палюбілі гэтую Царкву, бо яна добра адпавядае нашым ня толькі рэлігійным, але гаста й грамадзкім патрэбам, бо мае даволі вялікую залю. Але мы былі там дасюль толькі добрымі суседзямі, а не гаспадарамі. І вось цяпер, з волі Божае, мы такімі гаспадарамі можам быць. На нядаўным сваім Царкоўным Сходзе прыхажане БАПЦ ў Нью-Ёрку аднагалосна пастанавілі купіць яе. Для гэтага аднагасна пастанавілі злажыць па 150 даляраў ад кажнае сям'і й самастойна працуючых паадзінокіх прыхажанаў, бо пры куплі мы павінны зложыць 5.000 даляраў.*

*Збор гэтых складак ужо пачаўся, і мы можам з радасьцяй сказаць, што добра пачаўся. Кажны, хто зложыць складку, будзе адным з гаспадароў Царквы, а яна будзе нашым і рэлігійным і грамадзкім гонарам. Таму таксама гэтым кажны аднагасна добра паслужыць Богу й Беларусі.*

*У сувязі з гэтым, мы горача заклікаем ня толькі нашых беспасярэдніх прыхажанаў ў Нью-Ёрку й ваколіцах яго, але й усіх нашых Братоў і Сёстраў наагул, памагчы нам у гэтай нашай сьвятай справе сваімі шчодрымі ахвярамі.*

*Госпад Бог наш Ісус Хрыстос багаславіць усіх ахвярадаўцаў, а імёны іх будуць залатымі літарамі запісаныя ў Гісторыі нашае сьв. БАПЦарквы.*

*Царкоўная Рада БАПЦ*
*ў Нью Ёрку*

*† Архіепіскап Васіль*

## СПОВЕДЗЬ СЯБРЫ КПЗБ

заканчэньне

дайшоў нарэшце да зразуменьня, што служыць трэба не Маскве й ейным „вялікім" правадыром, а свайму народу, — гэта зь ягонай аўтабіяграфіі яшчэ ўсё ня зусім ясна. Выглядае аднак-жа, што нейкія першыя парасткі самастойнае думкі, хоць і позна, але пачынаюць паволі прабівацца.

*Р. Р.*

## СКЛАДКІ НА КУПЛЮ ЦАРКВЫ ЗЛАЖЫЛІ:

| | |
|---|---|
| 1. Архіепіскап Васіль | $ 100 |
| 2. Мікола Дарашэвіч | $ 150 |
| 3. Васіль Захаркевіч | $ 50 |
| 4. Ул. Русак | $ 100 |
| 5. Фр. Кушэль | $ 20 |
| 6. Даніла Клінцэвіч | $ 100 |
| 7. Барыс Данілюк | $ 150 |
| 8. Янік | $ 150 |
| 9. Міхась Тулейка | $ 100 |
| 10. Анатоль Александровіч | $ 150 |
| | $1070 |

# НА ПАНЯВОЛЕНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Кажны з нас, эмігрантаў, прагне пачуць што-колечы пра жыцьцё на Бацькаўшчыне. Але зялезная заслона такая шчытная, што нічога не даведаецца навет і той, хто атрымлівае лісты ад родных ці знаёмых. З прыватных вестак ведама адно тое (і яно пагаджаецца з газэтнымі весткамі), што зь Беларусі масова „добраахвотна-прымусовым" парадкам вывозіцца моладзь на цаліну, у раёны здабываньня вугальля, на будоўлю розных каналаў ды на іншыя цяжкія працы. Затое з Маскоўшчыны насылаюцца розныя партыйныя цівуны й прыганятыя. Усе важнейшыя пасады як у калгасах, так у розных „загот" пунктах і іншых урадавых бальшавіцкіх установах занятыя насланымі людзьмі, што прайшлі расейска-бальшавіцкую патрыятычную школу.

Пераглядаючы-ж менскія бальшавіцкія газэты мы нічога ня знойдзем пра жыцьцё як калгасьнікаў вёскі, так і меставых жыхароў. Апрача трафарэтнае й абрыдлае ўжо ўсім ілжы аб „заможным" жыцьці ды енку аб датэрміновых пастаўках збожжа, мяса, малака, ільновалакна ды інш. ды розных бязглуздых моваў бальшавіцкіх цівунаў ад Хрушчова праз Чжу-Эн-Лая ды іншых аж да Кісялёва — блізу нічога больш. Рэдка дзе прасочваецца карэспандэнцыя, што дае абразок савецкае наяўнасьці. Рад гэткіх карэспандэнцыяў з газ. „Зьвязда" за няпоўны студзень месяц мы й зьмяшчаем ніжэй, прычым зазначаем, што яшчэ з большай ахвотай мы вышукоўваем ды зьмяшчаем і тое, што ёсьць на Бацькаўшчыне ўцешнае, калі там не заўважаем наглае ілжы.

### ТРЭБА ДАБІЦЦА.

На рэспубліканскай нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі „пастаўлена задача павялічыць у параўнаньні з 1956 г. валавыя зборы збожжа на 40%, бульбы на 25%, цукровых буракоў на 32%, сем'я й валакна ільну на 15%; трэба дабіцца павялічэньня вытворчасьці малака ня менш чым у два разы ў параўнаньні з 1955 годам."

Параўнаваньне малочнай вытворчасьці да 1956 году ня робіцца, бо ў 1956 годзе было паважнае зьніжэньне гэтае вытворчасьці.

### БЕЛАРУСЫ НА ЦАЛІНЕ.

35 сем'яў калгасьнікаў з Брэсцкае вобласьці перасялілася ў сельгас арцель „Камунізм", Чкалаўскага раёну, Какчэтаўскай вобласьці, Казахскай СССР.

Далей расказваецца аб заможным жыцьці ў калгасе, а чаму і як „перасяліліся" гэтыя калгасьнікі — нічога не гаворыцца

### РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ПАЛЯУНІЧЫХ І РЫБАЛОВАУ.

...Арганізаваны 164 бркгады па зьнішчэньню ваўкоў. У 1956 г. імі забіта 1330 драпежнікаў...

Гэты лік паказвае на вялікую плойму ваўкоў на Беларусі. І гэта ў сваю чаргу даводзіць, што пры савецкім спосабе гаспадараньня драпежнікам заўсёды лепшыя магчымасьці бытаваньня.

### НА УВЕСЬ ГОРАД АДНА ПРАЛЬНЯ.

Кажны дзень ля мэханічнай пральні ў Менску можна бачыць чаргу людзей з клункамі й чамаданамі ў руках, якія прышлі сюды, каб здаць у мыцьцё бялізну. Але зрабіць гэта ня так лёгка. У маленькім пакойчыку сядзіць адна жанчына, якая за гадзіну можа прыняць гры-чатыры чалавекі.

На ўвесь горад ёсьць толькі адна пральня. Яе прапускная здольнасьць невялікая. Бялізну можна атрымаць толькі праз 15 дзён. Зусім зразумела, што такая пральня ня можа задаволіць патрэбы гораду.

(заканчэньне на 5 б.)

# „ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ" І ЕЙНЫЯ СУПРАЦОЎНІКІ

Пасля двох год ад часу спыненьня „Нашае Нівы", у канцы траўня 1917 году выйшла ў сьвет новая беларуская газэта „Вольная Беларусь".

Ваенная завіруха 1914-18 гадоў, што ў ладнай меры адбылася на тэрыторыі Беларусі, здавалася, зусім перачыркнула ўсю нацыянальную дзейнасьць. Разагнаныя па франтох вайны вайскавікі ды па абшарах расейскае імпэрыі цывільныя грамадзяне навет ня ведалі адзін аб адным. Залецьве на прыканцы вайны пачалі сям-там закладацца арганізацыі беларусаў-уцекачоў, што прыймалі выразны нацыянальны кірунак. Па-за гэтым нічога ня было чуваць. Затое з тым большым запалам Беларусы хапіліся за працу па лютаўскай рэвалюцыі, калі адчыніліся большыя магчымасьці нацыянальнай дзейнасьці.

У сакавіку 1917 году ў Менску паўстаў Беларускі Нацыянальны Камітэт, ад 1-га траўня пачала была выходзіць пад рэдакцыяй А. Смоліча газэта „Грамада", але калі ад 28-га траўня зьявілася „Вольная Беларусь", дык „Грмада" на сваім 4-ым нумары спынілася.

„Вольную Беларусь" пачаў выдаваць Язэп Лёсік, які разам з паэтам Алесем Гаруном — Аляксандрам Прушынскім — прыехаў у Менск із Сібірскай катаргі. Перадавіца першага нумару пачыналася прачуленым вершам, зь якога, нажаль, памяць не захавала двох радкоў:

Беларусь, Беларусь!
Агнём імя тваё мне гарыць,
Зь песьняй ласкаю маткі нясецца,
. . . . . . . . . . .
Як нявехна ня ў роднай сям'і,
Ты пасагу сабе не надбала,
Залатыя кляйноты свае
Ў пыху сёстрам сваім даравала.

„Вольная Беларусь" мела вялікае падабенства да „Нашае Нівы", стаўшыся якбы ейным працягам. Ужо пададзены верш і перадавіца паказвалі, што яшчэ працягваецца змаганьне за права „людзьмі звацца", ды займаць роўнае месца „між народамі". Але калі кірунак „Нашае Нівы" можна-б азначыць як *сацыяльна-нацыянальны*, а пасьля як *нацыянальна-сацыяльны*, дык кірунак „Вольнае Беларусі" быў *пераважна нацыянальны*, дармо, што тымі часамі сярод жыхарства нуртавалі й моцна ўзрушалі яго пытаньні сацыяльныя. Падабенства да „Нашае Нівы" выявілася і ў тэхнічным афармленьні „Вольнае Беларусі". Гэта быў тыднёвік спачатку ў форме газэты, а пасьля часапіс крыху меншага фармату як наш „Беларус" і крыху большага за „Нашу Ніву".

Рэдакцыя „Вольнае Беларусі", хоць і ў сталіцы Менску, змушаная была на пачатку прытуліцца ў старым драўляным двупавярховым дамку на былой Захараўскай вуліцы пад № 18-ым. Але дамок гэты быў досыць утульны. Бальконьчык на другім паверсе выходзіў у невялічкі парк з досыць старымі ўжо дрэвамі, што прыдавала гэтаму аселішчу прыемны ўтульны характар. Ды найбольш, бадай, гэтая ўтульнасьць вычувалася з тэй шчырай цёплай атмасфэры, якая панавала ў рэдакцыі ды ў прыватных памешканьнях супрацоўнікаў. Рэдактар Язэп Лёсік з вонкавых абыходжаньняў часамі выглядаў суворым і досыць шорсткім чалавекам. Аб гэтым гаварыў катэгарычны й ня зусім ветлы напіс на дзьвярох рэдакцыйнага пакою: „Без патрэбы ня рыпацца", а на другой фортцы — „Без запытаньня ня лезьці". Але насьцярожанасьць наведваньніка рэдакцыі, што паўстала ад гэткіх папярэджаньняў, адразу адпадала, калі ён уваходзіў у рэдакцыйны пакой. Звычайна, наведваньнік адразу спатыкаўся з уважлівым паглядам рэдактара, ласкавым тварам у акулярах Ванды Лявіцкай — сакратаркі й задуменным паглядам вялікіх вачэй Зьмітрака Бядулі (Самуіла Плаўніка).

Насуперак вонкавых азнакаў шорсткасьці, Лёсік меў натуру мяккую й асабліва спрыяльную да аўтараў, што падавалі свае творы й допісы ў газэту. Калі толькі ён бачыў нейкую арыгінальнасьць у якім творы, дык пушчаў у друк нечапаным. У такіх выпадках і карэктару казаў: „Не чапай, брат, яго: няхай будзе як ёсьць — ён нейкі сваісты". (Што праўда, гэта ўжо з крыху пасьлейшага часу, бо напачатку „Вольная Беларусь" ня мела адмы-

## НА ПАНЯВОЛЕНАЙ БАЦЬКАУШЧЫНЕ

Ці ведаюць аб гэтым кіраўнікі выканкому Менскага гарадзкага Совета? Бязумоўна ведаюць, але мер ня прыймаюць.

**Далей падаецца, што на вуліцы Варашылава (б. Ніжняй Ляхаўцы) ужо праз колькі год будуецца новая пральня ды ніяк ня скончыцца. Вось калі мы яшчэ прыгадаем, што кажная пральня ў Амэрыцы, якіх тут кажны горад мае пад дастаткам, можа ў патрэбе праз колькі гадзін выдаць вам прынятую ад вас бялізну ужо памытай, дык гэтае параўнаньне яшчэ яскравей пакажа на бальшавіцкія „дасягненьні".**

### У ПАДАРУНАК СЯЛЯНАМ КІТАЮ.

На заводзе „Гомсельмаш" пабывалі артыстыя Шанхайскага тэатру, пэкінскай музычнай драмы. Сустрэча кітайскіх майстроў мастацтва зь беларускімі камбайнабудаўнікамі вылілася ў яркую дэманстрацыю дружбы, як піша „Зьвязда".

У памяць гэтай сустрэчы гомсельмашаўцы пастанавілі зрабіць у падарунак сялянам Кітаю два „сіласаўборачныя" камбайны „СК — 2,6"

**Арыгінальная вымена, што й казаць!**

### ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОУ.

Старшыня калгасу „Савецкая Беларусь" навязаў тэлефонную размову з амэрыканскім сьпяваком — неграм Полем Робсанам. „Ад імя членаў нашага калгаса вітаю Вас, мужнага змагара за мір, з Новым Годам. Прашу ад душы павіншаваць Вашага сына Поля й жонку Эсланду"...

**Далей ідзе даўгая размова аб міры й дружбе між народамі, а нарэшце Робсан засьпяваў „Шырака страна мая радная".**

### ВЕЧАР ДРУЖБЫ.

...Юнакі й дзяўчаты Менскай друкарні імя Сталіна зьбіраюцца на інтэрнацыянальны вечар, прысьвячаны падрыхтоўцы да сусьветнага фэстывалю моладзі. На свой вечар яны запрасілі кітайскіх таварышоў, якія праходзяць у сталіцы Беларусі вытворчую практыку на станкабудаўнічым заводзе імя Варашылава, і юнакоў Уетнаму — студэнтаў Менскага лесатэхнічнага тэхнікуму.

Ад кітайцаў прамаўляў Лю-Гуй-Жун, а ад Уетнамцаў Куанга. Ён расказаў аб „гераічнай барацьбе" патрыётаў Уетнаму за сваё вызваленьне і аб „няволі" паўдзённага Уетнаму, дзе „паранейшаму гаспадараць каляніизатары і нацыянальныя здраднікі" **(Чужаслоуе рэд.)**

### РАЗЬВІЦЬЦЁ ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ У БЕЛАРУСІ.

Перадачы Менскага тэлецэнтру глядзяць у Менскай і Маладэчанскай абласьцёх. Асобныя радыёаматары змантавалі спэцыяльныя прыстасаваньні й прымаюць перадачы ў Оршы, Лідзе, Навагрудку. Робяцца абсталяваньні ў Баранавічах і Магілеве

### ПА ПРЫКЛАДУ ГАРАДЗІШЧАНЦАУ.

**По прыкладу Гарадзішчанцаў — калгасьнікаў Берасьцейскае вобласьці — вядзецца прапаганда будовы саматугам школьных будынкаў ....**

„Заклік знайшоў гарачы водгук сярод працоўных Пінскага раёну. Нядаўна сэсія раённага Савету Дэпутатаў разгледзела пытаньне аб ініцыятыўным будаўніцтве школьных будынкаў і майстэрань у 1957-58 гг.

### СКАРБ СТАРАЖЫТНЫХ МАНЭТАУ.

Студэнт Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту Дземянчук перадаў у Інстытут Гісторыі Акадэміі Навук БССР скарб із 116 срэбраных манэтаў. Скарб быў знойдзены ў г. п. Камянцы на Пабярэжнай вуліцы, недалёка ад вядомай Белай Вежы, якая была пабудаваная ў XIII стг. Адна манэта высокапробнага срэбра караля Іспаніі і Індыі Філіпа IV-га (1621-1665). Усе рэшта 115 манэтаў дробных памераў зь нізкапробнага срэбра. Бальшыня манэт выбітая або ў Польшчы за каралём Янам Казімерам (1648-1668), або ў Прусах за каралём Фрыдрыхам Вільгельмам. Колькі манэтаў маюць дату XVIII-га стг.

### КАШТОУНАЯ ЗНАХАДКА.

Жыхар вёскі Зачэпічы, Дзятлаўскага раёну, Іван Іваневіч капаў яму на сваім гародзе і выкапаў гаршчок, у якім было каля трох кіляграмаў срэбраных манэтаў XV-XVI стагодзьдзяў. Іваневіч здаў знахадку Горадзенскаму гістарычна-археялягічнаму музэю.

### „МІНСК"

Даведнік падарожніка.
Дзяржаўнае выдавецтва БССР.

У 1967 годзе сталіцы Беларусі споўніцца 900 год. Аб горадзе Мінску ўспамінаецца ўжо ў летапісах за 1067 год. (і ўспамінаецца аб **Менску,** а не аб **Мінску** — Рэд.). Як і іншыя старажытныя рускія гарады, ён мае багатую падзеямі гісторыю. Помнікі гісторыі й гістарычныя месцы горада сьветчаць аб самаадданай гераічнай барацьбе Мінчан і ўсяго беларускага народу за сваю незалежнасьць, за ўстанаўленьне савецкай улады, за шпаркае разьвіцьцё ўсіх галін народнай гаспадаркі...

**У гэтым сьвятле й мэце выдадзены даведнік падарожніка. Адна рэч барацьба Мянчан і ўсяго беларускага народу за сваю незалежнасьць, а іншая, ілжывая, — барацьба за ўстанаўленьне савецкае ўлады ды за разьвіцьцё усіх галін народнай гаспадаркі, якая дайшла да таго, што Мянчанам няма дзе памыць бялізны. (гл. карэспандэнцыю „На ўвесь горад адна пральня").**

У разьдзеле „Гістарычна-рэвалюцыйныя месцы й месцы знаходжаньня выдатных людзей" апавядаецца аб Курлоўскім расстрэле, падпольнай друкарні газэты „Зьвязда", рэвалюцыйнай дзейнасьці Фрунзе й Мясьнікова (пагромшчыкаў беларускіх арганізацыяў — Рэд.) у Менску, першым ўсебеларускім зьезьдзе саветаў, наведваньні Менску Калінінам, Варашылавам, Максімам Горкім, Маякоўскім, Пятром І-ым ды аб жыцьці ў Менску Максіма Багдановіча, В. Дунін-Марцінкевіча, С. Манюшкі і — Скобелева...

**Відаць з гэтага, што „Даведнік падарожніка" сфальсыфікаваны так, як сфальсыфікаваная гісторыя Беларусі.**

### ЗАЛЕЖЫ КАЛІЙНАЕ СОЛІ.

У Беларусі выкрытыя месцароды калійных соляў. Іх даволі, каб забясьпечыць калійнымі ўгнаеньнямі сельскую гаспадарку Беларусі й сумежных зь ёю мясцовасьцяў.

Старобінскія месцароды дасьлядуюцца навуковымі БССР. Вывучэньне беларускіх калійных соляў праводзіць таксама рад інстытутаў Масквы й Ленінграду.

## ГОЛАС РАЗВАГІ

**Мы заўсёды з пашанаю ставімся да рэальнага падыходу нашых суседзяў да справы міжсуседзкіх дачыненьняў і сужыцьця. Тутака мы даём голас маладым Паляком інтэлектуалістым з часапісу „Контрасты". Артыкул у часапісе „Контрасты" на тэму суседзкіх дачыненьняў Польшчы зь іншымі народамі быў перадрукаваны ў польскіх часапісах — „Дзеньнік Дэтройцкі" й „Дзеньнік для вшысткіх". Найцікавейшае зь яго падаём ніжэй:**

„Справа звароту да Польшчы земляў з над Одры прасьцейшая за справу прывярненьня Польшчаю Усходніх Земляў.

**На Усходніх Землях цяпер жыве менш** Палякоў, як да вайны. Датаго-ж да Усходніх Земляў маюць прэтэнсыі нашыя братнія народы: Беларусы, Украінцы, а таксама Летувісы.

Немцаў і Расейцаў Польшча павінна трактаваць, як забірцаў і рабаўнікоў. Зь Беларусамі, Украінцамі й Летувісамі трэба ўкладаць дачыненьні, як з сябрамі аднае сям'і. Галоўнаю асновай у гэтых дачыненьнях павінен быць кампраміс, Бяз згоды між братнімі народамі Усходнія Землі Рэчыпаспалітае могуць застацца пры Расеі, а тады ніколі ня будуць вольныя а ні для Польшчы, а ні для Украіны, а ні для Летувы.

Падтрыманьне Нямеччыны ў справе Усходніх Земляў нічога не гарантуе, тымчасам як кампраміс між Польшчаю, Беларусяй і Летуваю можа запэўніць усім гэтым народам бясьпеку й даўгатрывалыя прыязныя дачыненьні.

---

словага карэктара). Галоўны цяжар рэдакцыйнае працы ляжаў на самым рэдактару. Рукапісы падаваліся ў друк пісанымі ад рукі. Характар пісьма Я. Лёсіка быў вельмі цікавы: вялікія прыгожай формы літары, выразная чытальнасьць і вельмі вялікая зьмяшчальнасьць — ня меншая, бадай, як машынковага рукапісу.

Хуткі развой нацыянальнае арганізаванасьці ў 1917 г. уцягваў Лёсіка і ў іншую дзейнасьць, у якую ён уваходзіў увесь, не пакідаючы зусім часу на прыватнае жыцьцё. Ён цягнуў, як тады казалі, „як вол".

„Вольная Беларусь" мела шмат супрацоўнікаў. У ёй пачалі друкавацца творы лепшых паэтаў і пісьменьнікаў. У ёй былі надрукаваныя ладныя часткі паэмаў Я. Коласа: „Сымон Музыка" й „Новая Зямля". Паважнае месца займалі публіцыстычныя артыкулы, прысьвячаныя пытаньню будучага ладу на Беларусі; зь іх, бадай, найпаважнейшы — праца А. Бурбіса „Фэдэрацыя й конфэдэрацыя".

У часе выхаду „Вольнае Беларусі" яшчэ ня было граматыкі беларускае мовы. Яе апрацоўваў і рыхтаваў да друку Браніслаў Тарашкевіч. Язэп Лёсік спрабаваў сам хоць часткава ўсталіць правапіс. Прыкладам, ніякі род спакменьнікаў-назоўнікаў адзначаўся канцавою літараю „о" (небо, горо, моро), часьцінкі „не, ня, ні" пісаліся аднэй формай „ні"; уведзеныя былі дзе-якія характэрныя асаблівасьці мясцовае гаворкі, адкуль паходзіў Лёсік (с. Мікалаўшчына, Сьвяржэнскае воласьці, былога Менскага павету; Язэп Лёсік быў дзядзькам Якуба Коласа, родным братам Коласавае маці). Між іншага, Лёсік быў патрыётам і свае мясцовасьці.

Сакратаркаю й бліжэйшаю супрацоўніцаю „Вольнае Беларусі" была Ванда Лявіцкая, дачка Антона Лявіцкага (Ядвігіна Ш.). Пасьля яна сталася жонкаю Язэпа Лёсіка. Доля яе й дзяцей няведамая. Ведама адно, што па новай, бальшавіцкай, ссылцы Я. Лёсіка, дзе ён і памёр, ці можа замучаны, працавала дзесь у маскоўскай сталоўцы; жыцьцё ўсяе сям'і ня было лепшае за жыцьцё жабрачае.

Другім сталым супрацоўнікам быў Зьмітрок Бядуля — Самуіл Плаўнік — гэбрай з паходжаньня.

Алеся Гаруна можна было пабачыць у рэдакцыі ня вельмі часта. Ён быў моцна стурбаваны прадчувальным перадсьмяротным нядугам ягонае роднае маці, якую ён па звароце із ссылкі вельмі рупна дагледаў і запраўды пасыноўску шанаваў. А з часам, па сьмерці свае маці, сам пачаў занепадаць, што прычынілася й да ягонага скону без пары.

Досыць часта ў рэдакцыі можна было пабачыць Браніслава Тарашкевіча. Ён тады закончваў працу над граматыкай беларускае мовы. Ужо тады неаднакраць і шмат кім з пашкадаваньнем зазначалася, што Тарашкевіч залішне пачынае ўдавацца ў палітыку, у чым ня выказвае здольнасьці й празарлівасьці, і што занядбоўваючы працу навуковага, можа пайсьці па неадпаведнай яму дарозе; гэтак Беларусы страцяць паважнага навуковага, якога можна было спадзявацца ў васобе Тарашкевіча.

Рэдакцыйныя працаўнікі, а часам і госьці, часта зьбіраліся ў прыватным пакоі Ванды Лявіцкай, дзе яны ласаваліся заціркай. Трэба падчыркнуць, што тымі часамі заціркa, ды яшчэ й забеленая, была вельмі прынадным ласункам. Бацькі-ж Ванды Лявіцкай часта „падкідалі" сяго-таго із гаспадарскай еміны. На гэтых таварыскіх зборках Лёсік і Прушынскі разказвалі аб жыцьці ў сібірскай ссылцы. Ванда Лявіцкая любіла дражніць Зьмітрака Бядулю за ягоныя вялікія кучаравыя валасы сібірскаю дзявочаю залётнаю песенькаю: „Пароход ідёт по Лене на железных парушах. Я люблю таку породу, што кудрявы волоша (сібірская асаблівасьць мовы — зьмена „с" на „ш" і „з" на „ж").

На гэтых гасьцінных зборках давялося ўпяршыню пачуць паважнае істотнае азначэньне бальшавізму, як усеразбуральнае сілы. Гэты высноў ЯзэпЛёсік падмацоўваў свайміназіраньнямі над палітычнымі ссыльнымі — бальшавікамі. Паколькі Лёсік з Прушынскім былі перастаўленымі на вольных пасяленцаў (ведама, бяз права звароту на Бацькаўшчыну),як і шмат якія палітычныя зьняволеныя, дык выдаралася магчымасьць сякой-такой арганізаванасьці палітычных ссыльных, ці то з мэтаю палепшаньня свайго бытаваньня, ці з культурна-асьветнай мэтай. І кажны раз, як толькі да кіраўнічых інстанцыяў улазілі бальшавікі, арганізацыя нямінуча разбуралася. Характэрным яшчэ было Лёсікава цьверджаньне аб дысцыпліне сібірскіх крымінальных зьняволеных. „Нідзе ў

# ВАЛІ НА БЛІЖНЯГА СВАЙГО Й БАРАНІ СЯБЕ САМОГА

Выпадкам давялося прачытаць мне нядаўна ў газэце „Беларускае Слова" за месяц кастрычнік 1956 г. у № 2(31), адкрыты ліст а. М. Лапіцкага да беларускай грамадзкасьці. Гэтым лістом а. М. Лапіцкі хоча выпраўдаць сябе ў „самарасстрыгстве" й продажы грамадзкага будынку-царквы ў Рэгенсбургу, аб чым было паведамлена у газэце „Бацькаўшчына" 3 чырвеня 1956 г., № 23(305), аўтарам К. М.

Я ня думаю й не хачу палемізаваць з а. М. Лапіцкім. Мяне цікавіць спосаб выпраўданьня а. М. Лапіцкага перад беларускай грамадзкасьцяй і справа продажы царквы, бо я, як і шмат іншых эмігрантаў, належаў да тае грамады прыхажанаў, што давала грашовыя ахвяры на будову царкоўнага будынку ў Рэгенсбургу, ды ў дадатку карміў нейкі час двух работнікаў пры будове гэтае царквы.

Вось-жа колькі заўветаў аб гэтым. Спосаб самаабароны а. М. Лапіцкага перад беларускай грамадзкасьцяй, казаў той, не да твару сьвятару, бо ён ужывае зусім не хрысьціянскіх прыхватак, каб галаслоўна апаганіць бліжніх сваіх і абяляць сябе самога, ды, што найбольш немаральна, зваліць усю віну ў продажы царквы ня нябошчыка Мітрапаліта Панцелеймана. Так могуць рабіць адно людзі, што не прызнаюць ніякае маралі, права й справядлівасьці. Каб адвесьці ўвагу беларускай грамадзкасьці ад выстаўленых яму вінавачаньняў, а. М. Лапіцкі піша даўжэйшы ўступ аб вуніяцкай справе, што пахне сівою мінуўшчынаю, ды нарэшце вінавадзіць Беларусаў „спад знаку Бацькаўшчыны" ў наварочваньні праваслаўных Беларусаў на вуніяцтва, у сувязі з чым прыляпляе да гэтае газэты мянюшку „вуніяцкая". Галоўным довадам вуніяцка-місіянэрскай дзейнасьці былі й ёсьць для а. М. Лапіцкага студыі беларускіх студэнтаў на каталіцкім унівэрсытэце Бэльгіі й атрымваньне імі стыпэндыяў ад каталіцкага грамадзтва, што быццам-бы абумоўлена пераходам студэнтаў на вуніяцтва, ды апекаю іх а. Робэртам.

Добра, калі пастыр пасе свае авечкі, але кепска калі ён ўяўляе, што беларускія студэнты бараны й ім патрэбная ў 20-ым веку расейская праваслаўная апека, каб гэтым не дапусьціць беларускіх сялянскіх сыноў да здабыцьця вышэйшае асьветы. Ня так даўно др. Вітаўт Кіпель з Зораю Савёнак прыехалі ў ЗША з Бэльгіі, пасьля заканчэньня там студыяў, і бралі шлюб у пастыра а. М. Лапіцкага ды, праўдападобна, яму ня трэба было адварочваць іх на праваслаўе.

Гэтая праваслаўная абарона нашых студэнтаў а. М. Лапіцкім прыпамінае мне падобную абарону мае асобы, калі бацька мой яшчэ перад першаю сусьветнаю вайною паслаў мяне ў гарадзкое вучылішча. Мясцовы праваслаўны сьвятар раіў майму бацьку забраць мяне з вучылішча, матывуючы тым, што навука псуе хлапцоў. Лепей, казаў сьвятар, пасьлаць мяне на парабка, дык будзе большая карысьць, бо зарабіцца нейкі рубель.

Як-жа парадаксальна гучыць выдуманая а. М. Лапіцкім гісторыя з вуніяцтвам, калі сяньня ў ЗША ёсьць міжрэлігійная арганізацыя, што ймкнецца зглядзіць варожасьць паміж рэлігійнымі групамі людзёў. З другога боку, беларускі народ у працягу свае гісторыі ставіўся да рэлігіяў талеранцыйна, памятаю, што нашыя людзі належаць да некалькіх веравызнаньняў. Нацыянальна-бытавыя асаблівасьці моцна адзіначаць наш народ і таму практыкаваліся й цяпер практыкуюцца мяшаныя што да веравызнаньня сужэнствы. Беларускі народ станоўка адкідаў рэлігійныя закалоты, што ўносіліся ў вадзіную беларускую нацыю чужымі ўрадамі й сьвятарамі-заганятарамі ў няволю й цёмру.

Няўжо а. М. Лапіцкі ў сваёй праваслаўнай заўзятасьці хоча зьнішчыць вуніятаў у вольным сьвеце, гэтак як Сталін зьнішчыў іх у СССР, забываючыся, як сьвятар, на эвангельскую навуку Хрыста: „Любі бліжняга свайго, як самога сябе", ды ўзьняць рэлігійную варажнечу ў нацыянальна-сьведамай сям'і беларускай эміграцыі?

У сваім лісьце а. М. Лапіцкі кажа: „Царкву ў Рэгенсбургу прадаў ня я, а Уладыка Панцелейман". Якое жахлівае й гістарычнае абвінавачваньне валіць а. М. Лапіцкі на нябошчыка Мітрапаліта Панцелеймана, што ня можа выпраўдацца. Дапусьціма, што перастарэлы Мітрапаліт Панцелейман перад сваёю сьмерцяў страціў сваё сумленьне й употай прадаў царкву. Чаму-ж тады а. М. Лапіцкі, як адзіны настаяцель тае царквы, ведаючы, хто прадаў царкву, нічагусенькі не сказаў аб гэтым сваім прыхажанам аж да кастрычніка 1956 г.? З другога боку, Мітрапаліт Панцелейман ня мог сам, з гледзішча свайго становішча, маралі й перастарэласьці займацца такою тайнаю спэкуляцыйнаю справаю, але, як катэгарычна сьветчыць а. М. Лапіцкі, Мітрапаліт Панцелейман трапіў у тайныя гандляры цэрквамі. Нявідама, колькі-ж срэбранікаў узяў ён за Рэгенсбурскую царкву? Відаць, а. М. Лапіцкі ня ведае нічога аб гэтых срэбраніках, бо ў сваім лісьце нічога ня кажа, але ведае, што царква праданая не на злом, як „выдумаў" вінавачвальнік, а нямецкім уцекачом на кірху. А. М. Лапіцкі цешыцца з гэтага, але прыхажанам няма ніякае пацехі ад употай праданай царквы на злом ці кірху, ды ад гэтага злачынства не зьмяншаецца. Варта было-б хоць-бы ў імя пашаны да нябошчыка Мітрапаліта Панцелеймана й справядлівасьці не рабіць прысуду ў гэтай справе на аснове катэгарычнага сьветчаньня а. М. Лапіцкага, а трэба дакладна апытаць яшчэ тых асобаў, што купілі царкву, бо выпраўданьне а. М. Лапіцкага базуецца не на справядлівасьці, а на лягернай ягонай этыцы.

Што да „самарасстрыгства", дык я нічога ня ведаю пра гэта, а можна дапушчаць, што гэта й было, бо, бяручы на ўвагу сучасную эквілібрыстыку а. М. Лапіцкага. На канцы мушу зазначыць, што царква а. М. Лапіцкага ў ЗША належыць да грэцкай юрысдыкцый й таму ня можа уважацца за беларускую аўтакефальную царкву, аб чым з самахвальствам кажа а. М. Лапіцкі ў сваім лісьце. Прыхажанам гэтае царквы трэба ўважна пілнаваць, каб і грэцкі Уладыка ня быў пасуджаны некалі ў продажы царквы, бо а. М. Лапіцкі, як апостал праваслаўя, толькі будуе цэрквы й адзначае продажы іх пасьля сьмерці Уладыкаў.

*Прыхажанін праданае царквы*

## ЗАМІЖ ФЭЛЬЕТОНЧЫКУ

### КАНЕЦ АПАВЯДАНЬНЯ „ШЧАСЬЦЕ".

...Твар даяркі сьвятлее... І ўсе прысутныя разумеюць, што думкі маці цяпер аб роднай савецкай уладзе, аб партыі, аб Маскве.

А крыху раней сказана: „Няма дрэнных кароў, ёсьць дрэнныя гаспадары"... Ды ня выцягнеш з дрэннай каровы малака, як ад савецкай улады не дастанеш праўды. Апавяданьне-ж гэтае характэрнае тым, аб чым цяпер беларускія пісьменьнікі змушаны пісаць

**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ І ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ „БЕЛАРУС".**

---

сьвеце, ні ў якім войску, ні ў вастрогах, ні ў якіх дысцыплінарных установах няма такой моцнай дысцыпліны, як у сібірскіх крымінальных катаржан", — казаў ён. Калі каторы ссыльны завінаваціцца перад таварышамі зрадаю нейкае важнейшае іхнае таямніцы, кара сьмерцяй немінучая. Не памогуць перавандроўваньні зь лягеру ў лягер. Некімі спэцыяльнымі ўмоўнымі знакамі, рыскамі на сьценах перасыльных пунктаў паведамлялася аб пераходах „вінавайцы", ён усьцяж сьцігаецца, аж пакуль прысуд сьмерці ня выканаецца. Успамінаючы гэтыя расказы, міжволі ўвага сьціроўваецца да савецкіх практычных карных спосабаў, якія грунтуюцца якраз на гэтым прынцыпе сібірскіх „уркаў".

„Вольная Беларусь" спатыкалася часта з наскокамі русыфікатараў. Але нацыянальная арганізаванасьць так хутка ўзрастала, а нацыянальнае пытаньне набірала штораз большае шырыні, і гэтыя наскокі ня мелі паважьнага послуху сярод жыхарства. Яна была перапыненая бальшавікамі па Усебеларускім Кангрэсе, а канчальна спынена імі-ж, калі яны вярнуліся ў Менск на прыканцы 1918 г. і больш ужо не аднаўлялася.

Калі бальшавікі йзноў пакінулі Менск увосень 1919 г., адразу-ж пачала выходзіць газэта „Звон", якая сталася выразным працягам „Вольнае Беларусі". Зьмест яе выразна заходняй ськіраванасьці выклікаў зласьлівы галас і правакацыйнае цкаваньне, як на „касьцельны звон" і „польскую інтрыгу". Гэтае цкаваньне выходзіла ад прарасійскіх колаў, гуртаваных пераважна пры былым земсьцьве, што намагалася пачаць дзейнасьць і на Беларусі. Але ня маючы рэальных спосабаў супрацьдзеяньня, яны толькі скрыгаталі зубамі, праходзячы каля „Юбілейнага Дому" (дом на Захараўскай вуліцы, збудаваны яшчэ за цара на ўшанаваньне 300-годзьдзя дому цароў Раманавых), дзе з часам сканцэнтравалася бальшыня беларускіх арганізацыяў, ды зь пенаю на губох сычэлі: „Вот где сидят изменники родины" Тады гэтых „деятелей" беларускага паходжаньня было шмат. Цяпер на Беларусі, ведама, няма ні земстваў ні земцаў. Нялічныя рэшткі іх тут на эміграцыі схаваліся ў нашым „Зарубежжы" ды прыкрыліся нават актам 25-га Сакавіка, успрыняўшы прыродную зьяву ў ніжэйшых арганізмаў — мімікрыю; аднак голас іхны чуваць часта, калі яны спрабуюць у найбольш пазытыўнай беларускай дзейнасьці дашуквацца „польскае інтрыгі", „служэнне Ватыкану" ці якое іншае падобнае зьявы. На пацяшэньне трэба тут адцеміць, што гэтыя-ж людзі цяпер не адважваюцца называць „изменниками родины" выдаўцаў „Вольнае Беларусі", „Звону" й крыху пасьлейшае „Беларусі".

„Звон" рэдагаваўся сьпярша Янкам Купалам, але неўзабаве рэдактарства пераняў той-жа Лёсік; на прыканцы 1919 году газэта зьмяніла назоў на „Беларусь". І „Звон" і „Беларусь" выходзілі ужо штодзённа. „Беларусь" усьцяж цярпела прыдзіркі ад акупантаў Палякоў, аж да арышту рэдактара ўлучна: яна праіснавала аднак да захопу ўлады бальшавікамі й замацаваньня імі таго сібірскага рэжыму.

„Наша Ніва", „Вольная Беларусь", „Звон", „Беларусь" былі тымі газэтамі, праз якія прайшлі і зь якімі ідэялягічна зьвязаныя лепшыя творы беларускае літаратуры. Найпершую зь іх „Нашу Ніву" некаторыя беларускія аўтары ў БССР (М. Ларчанка) спрабавалі „рэабілітаваць" думаючы, што пачалася ў бальшавікоў запраўдная „адлега". Але вось што пішуць аб іх бальшавіцкія ідэялёгі.

„У часе нямецкай і белапольскай акупацыі беларускія буржуазныя нацыяналістыя ў сваіх контррэвалюцыйных выданьнях („Вольная Беларусь", „Звон" і інш.) друкавалі многа твораў Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі. Выходзячы з прынцыпаў, якімі кіруецца М. Ларчанка, гэтыя брудныя, варожыя нам выданьні трэба было б абвясьціць „прогрэсыўнымі, патрэбнымі й карыснымі" за тое, што там беларускія буржуазныя нацыяналістыя са спэкуляцыйнымі мэтамі друкавалі творы лепшых беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў. А істотнай розьніцы паміж палітычнымі пазыцыямі гаспадароў „Нашае Нівы" і гаспадароў нацыяналістычных выданьняў пэрыяду нямецкай і белапольскай акупацыі ня было".

Праўда, што ўсе ўспомненыя выданьні варожыя бальшавізму, але спэкулянты йменьнямі нашых паэтаў і іхнымі творамі — гэта якраз бальшавікі. Ды ня толькі спэкулянты, але й фальсыфікатары-гвалтаўнікі. Яны калечылі й калечаць лепшыя нашыя паэтычныя таленты накідаючы нахабную й хлусьцівую бальшавіцкую тэматыку.

*М-г*

# АМЭРЫКАНСКІ МУЗЭЙ ІМІГРАЦЫІ

На невялікім абтоку Гудзонскае затокі каля Нью Ёрку ў падножжа статуі Свабоды будзе пабудаваны й уладжаны АМЭРЫКАНСКІ МУЗЭЙ ІМІГРАЦЫІ.

Музэй гэты мае пераказваць усім часом найвялікшую гісторыю, якой ніводзін край ня можа пахваліцца, — гісторыю амэрыканскае іміграцыі. Ніхто й ніколі не пераказваў гэтай гісторыі так драматычна, як гэта можа зрабіць Амэрыканскі Музэй Іміграціі. Ён будзе перадаваць яе Амэрыканцам і цэламу сьвету з найбольш адпаведнага месца: з падножжа магутнае Статуі, што высака трымае сьветач Свабоды.

Гісторыя, якую будзе пераказваць музэй, — гэта вялікая драма мужчынаў і жанок, што прывандравалі на гэтую зямлю із шмат якіх краёў, з рознымі культурамі, каб знайсьці шчасьце ў свабодным жыцьці ды захаваць яго для наступных пакаленьняў. Дзеля гэтай мэты яны ахвяроўвалі свае сілы й розум у разбудове амэрыканскага жыцьця й ладу.

Таму гэта й нашая гісторыя, гісторыя Амэрыканцаў - Беларусаў, бо ці-ж мала сыноў і дачок Беларускага Народу знайшлі сабе запраўды свабоднае й шчасьлівае жыцьцё ў вольным краі Вашынгтона, ды ўкладам свае працы, супольна з усімі іншымі Амэрыканцамі, разбудоўвалі й разбудоўваюць жыцьцё новае свае Бацькаўшчыны. І таму ўдзел у пабудове й уладжаньні Амэрыканскага Музэю Іміграцыі гэтак важны для нас, Беларусаў-Амэрыканцаў, як і для кажнай іншай этнічнай групы гэтага краю.

У чым-жа можа быць гэты ўдзел? Перш-на-перш у тым, каб кажны Беларус і кажная Беларуска, незалежна ад веку, былі зацікаўленыя Музэем Іміграцыі ды склалі на пабудову й уладжаньне яго грашовыя ахвяры, бо ўвесь музэй мае скласьціся з „цаглінак", дабрахвотна заахвяраваных і назьбіраных па ўсёй Амэрыцы. Да гэтага мусіць дайсьці нашае супрацоўніцтва й удзел у тым, што выбудаваны музэй будзе апавядаць сьвету аб укладзе іміграцыі ў амэрыканскае жыцьцё, а ў тым ліку і аб укладзе беларускай іміграцыі Амэрыкі.

Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня на сваім паседжаньні 17 лютага сёлета пастанавіла арганізаваць акцыю зьбіраньня ахвяраў на пабудову музэю, каб выказаць гэтым салідарнасьць з усімі, што возьмуць удзел у пабудове вялікай нацыянальнай сьвятыні цэлай Амэрыкі, ды каб імя беларускай іміграцыі было сярод будаўнікоў гэтай сьвятыні.

Нацыянальны Камітэт Музэю Іміграцыі прыняў 1-га сакавіка сёлета дэлегацыю БАЗА ў складзе сп. сп. Міхася Тулейкі, Антося Шукелайця й Юркі Станкевіча, горача вітаючы нашае жаданьне улучыцца ў акцыю будовы Музэю Іміграцыі. У сардэчнай гутарцы прадстаўнік Камітэту сп. Робэрт Бохат зазначыў, што галоўнае ня тое, колькі хто дасьць на музэй, а тое, колькі людзей возьме ўдзел у пабудове яго.

Да 7-га Кангрэсу БАЗА Галоўная Ўправа будзе весьці акцыю ўдзелу Беларусаў у пабудове Музэю Іміграцыі, а па кангрэсе гэтую акцыю павядзе камісія, адмыслова выдзеленая дзеля гэтага на Кангрэсе.

Неўзабаве Галоўная Ўправа вышле ўва ўсе аддзелы й дэлегатуры БАЗА дадатковыя інфармацыі ў справе музэю, а на гэтым месцы зварачаецца да ўсіх суродзічаў, мужчынаў і жанок, да моладзі й школьнікаў, да ўсіх беларускіх парахвіяў і арганізацыяў у Амэрыцы з гарачым заклікам далучыцца да гэтай гістарычнай акцыі й скласьці грашовую ахвяру на Амэрыканскі Музэй Іміграцыі. У ваддзелах і дэлегатурах БАЗА зьбіраньне будзе праводзіцца ўправамі аддзелаў, а ўсіх іншых суродзічаў просім слаць ахвяры на адрыс: BYELORUSSIAN- AMERICAN ASS'N, INC. 33 Nofolk Street, New York 2, N. Y. з зазначэньнем, што прызначаюцца яны на Амэрыканскі Музэй Іміграцыі. Галоўная Ўправа БАЗА будзе весьці дакладны й адмысловы ўлік гэтых ахвяраў, перадаваць іх у Камітэт Амэрыканскага Музэю й публікаваць пра гэта ў газэце „Беларус".

Памятайма, што ўдзел Беларусаў у пабудове Амэрыканскага Музэю Іміграцыі можа быць эфэктоўны толькі пры супольным высілку. Без арганізаванай акцыі беларускае імя пры уладжаньні музэю можа выпасьці. Таму няхай кажны суродзіч і ўсе беларускія Амэрыканцы падтрымаюць наш пачын, які ўздымаем для добрага імя беларускае іміграцыі Амэрыкі, як у імя сваіх іміграцыяў узьнялі ўжо гэтую акцыю блізу ўсе арганізацыі іншых нацыянальнасьцяў. Навет найменшая ахвяра будзе выказам удзячнасьці за тую свабоду й правы, што нам забясьпечвае на гэтай зямлі Канстытуцыя Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.

*Галоўная Ўправа БАЗА*

# НЯТРАПНЫ ПРАЦЯГ

Нам і не ў галаве было, што зьмешчаны ў нашай газэце артыкул „Крыху аб рэнэгатах" даткне выдаўцоў „Царкоўнага Сьветачу" (выданьне Бел. Прав. Царквы ў Амэрыцы — у Саўт-Рывэры). Зазначыўшы, што „нявольна хочацца прадоўжыць гэты артыкул", ды перадрукаваўшы частку гэтага артыкулу, выдаўцы „прадоўжылі" яго разважаньнем аб вуніяцкай дзейнасьці сярод Беларусаў, стараючыся давесьці, што дзейнасьць а. Тарасэвіча ў Чыкага, а таксама праца абсальвэнтаў Лювэнскага унівэрсытэту, а таксама й дзейнасьць усіх „крывічоў" — усё гэта дзейнасьць рэнэгацкая. Не ставала толькі назваць усё гэта „изменою родине", прынамся, было-б зусім ясна, у чым справа.

Не ўважаем за патрэбнае разглядаць усю гэтую вярзу. Не ўваходзячы ў вацэну дзейнасьці вуніяцкіх сьвятароў ды ў разгляд рэлігійнага жыцьця Беларусаў адцемім адно тое, што на наш пагляд справа рэлігійнае вуніі на Беларусі ўжо адыйшла ў гісторыю і пагрозы праваслаўю яна не становіць. З праваслаўнага-ж гледзішча, можна-б паказаць на большую загрозу праваслаўю — гэта энэргічнае шырэньне пратэстантызму, а найперш баптызму. Хіба-ж і тут вінны „крывічы"? Гэтая акалічнасьць паказвае ўсю некарэктнасьць, а праўдзівей, нахабства тых, хто хоча ўсьпінуць бяду на „крывічоў" за ушчупленьне праваслаўя.

Наяўнасьць колькіх рэлігійных вызнаньняў у Беларусаў не дазваляе нацыянальна-грамадзкім арганізацыям выступаць ці то ў вабароне, а яшчэ горш — у ганьбеньні таго ці іншага рэлігійнага вызнаньня. Тымбалей хлусьлівая дэмагогія, падобная да тэй, якой запоўнене „прадоўжаньне" нашага артыкулу, не запыніць рэлігійных рухаў і не ўнясе супакою ў рэлігійнае жыцьцё. Вось гэта ўсяго аб рэлігійным баку справы.

З нацыянальнага-ж гледзішча ніяк нельга залічаць у рэнэгаты тых пашыральнікаў рэлігійных вызнаньняў, якія выходзяць з нацыянальнага рэчышча. Таму „працяг" нашага артыкулу ў „Царкоўным Сьветачы" выпаў зусім нятрапна, ды далікатней кажучы, зусім неразумна.

Характэрна, што пагляд „Царкоўнага Сьветачу" на рэнэгацтва зусім супадае з паглядамі расейскіх шавіністых. Відаць, не выпадкова выдаўцы „Царкоўнага Сьветачу" пачуліся датклнёнымі нашым артыкулам. Паводля „Сьветачу" усе неправаслаўныя Беларусы — рэнэгаты. Беларускую дзейнасьць студэнтаў Лювэнскага Унівэрсытэту рэдакцыя „Царкоўнага Сьветачу" зьлічае да рэнэгацкай. Чаму? Бо рэдактарам здаецца, што там крыецца вуніятства. Паўтараем, толькі **здаецца**, бо-ж ніхто з праваслаўя не перайшоў ні ў вунію ні ў якусь іншую рэлігію. Гэта-ж тое самае — „істіно-русскій православный".

Мы-б былі вельмі радыя, каб ад пэўнага беларускага ўгрупаваньня адкінулася імя „Зарубежжа". Нажаль, факты, падобныя да пададзеных толькі сьцьвярджаюць істотнасьць гэтае мянушкі.

Кажуць „Хто-б дзятла ведаў, каб не яго нос".

**Р-ны**



**Сьв. † Памяці**

# ІВАН ПАДГАЙСКІ

**13 лютага сёлета трагічна загінуў наш суродзіч, радны БНР, сябра Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью Ёрку, Іван Падгайскі.**

**Няшчасны выпадак здарыўся ў часе працы пры разборцы дамоў у Нью Ёрку калі ён ўпаў зь 9-га паверху. Сьмерць застала на месцы.**

**Іван Падгайскі нарадзіўся 15 сакавіка 1908 г. у сяле Жарава, Груздаўскай воласьці, Пастаўскага павету, на Віленшчыне.**

**На эміграцыі Іван Падгайскі быў заўсёды дзейны й шчыры ў беларускім арганізаваным жыцьці. Сьмерць ягоная моцна засмуціла сэрцы ўсіх Беларусаў, якія людной грамадой і правялі яго ў вапошнюю падарож.**

**Пахаваны на Бруклінскіх могілках Эвэргрын.**

* * *

**Галоўная Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня гэтым выказвае глыбокае спачуваньне паважанай Спадарыне Валянтыне Падгайскай і яе дзецям у страце дарагога мужа й бацькі.**

**Вельмі сумна, што так передчасна адыйшоў ад нас добры сябра нашае арганізацыі й адданы беларускай справе вечнай памяці Янка Падгайскі.**

**Памяць аб Ім назаўсёды застанецца у нашых сэрцах.**

* * *

**Управа Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў у Нью Ёрку выказвае шчырае спачуваньне асірацелай сям'і Івана Падгайскага — ягонай жонцы Валянтыне й сыном. Неспадзяваная ягоная сьмерць горкім жалем напоўніла й нашыя сэрцы.**

**САКРАТАРЫЯТ РАДЫ БНР**

**з сумам паведамляе, што 13-га лютага 1957 г. у выніку няшчаснага выпадку на працы пры разборцы дому у Нью Ёрку загінуў сябра Рады БНР**

**ЯНКА ПАДГАЙСКІ**

**і выказвае глыбокае спачуваньне гаротнай сям'і нябошчыка.**

**Сакратарыят**

# Рэфэраты Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва

Напрацягу двух першых месяцаў 1957 году ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва адбыліся 4 навуковыя зборкі.

**26-га студзеня 1957** году гэн. Ф. Кушэль прачытаў рэфэрат на тэму: „Войны Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай за часоў Маскоўскага князя Івана Трэйцяга" (1471-1503 г.г.). Настойлівы й кансэквэнтны напор на Літву Івана Трэйцяга з аднаго боку й занураньне Вялікага Князя Літоўскага, а адначасна й Карала Польскага Казімера ў справах польскае палітыкі на захадзе з другога, давялі да таго, што Вялікае Княства Літоўскае панесла вялікія тэрытарыяльныя страты на карысьць Масквы. Апрача таго, у гэтым-жа часе былі страчаныя й прыязныя сувязі Літвы з Рэспублікамі Ноўгарадзкай і Пскоўскай. Відаць, казаў рэфэрэнт, Ягайлавічы, як каралі польскія,не разумелі таго, што ужо ў тыя часы параза Вялікага Княства Літоўскага на ўсходзе мела ў сабе зародак і пасьлейшае паразы Польшчы.

**2-га лютага**, на чародный навуковай зборцы БІНіМ, сп. А. Адамовіч прачытаў вельмі цікавы рэфэрат, прысьвечаны палеміцы з аўтарам кагадзе выпушчанае ў сьвет кнігі — „Гісторыі Украінскае Літаратуры" праф. Чыжэўскага, у якой шмат якія добра знаныя беларускія культурныя дзеячы ды пісьменьнікі, прыкладам Кірыла Тураўскі, прадстаўлленыя, як украінскія культурнікі, а дзе якім падзеям ды фактам наданае насьвятленьне, зь якім мы, як беларусы, ані ня можам пагадзіцца.

**У сыботу 16-га лютага** пісьменьнік У. Глыбінны чытаў сябром БІНіМ сваё новае апавяданьне й урывак з большае повесьці. Тэму апавяданьня блізу ўсе прызналі цікавою, адылі аўтару былі запрапанаваныя некаторыя папраўкі ды зьмены, абмяркоўваньне якіх ператварылася неўзабаве ў запраўдны „Куток мовы".

**2-га сакавіка** гэн. Ф. Кушэль прачытаў рэфэрат на тэму: „Войны Вялікага Княства Літоўскага з Маскоўшчынай за часоў Івана Чацьвертага Грознага" (1534-1570 г.г.). Сп. Кушэль прадставіў прабег дзьвюх войнаў. Першая зь іх адбылася за часоў маленства Івана Чацьвертага, калі Маскоўшчынай кіравала г. зв. Баярская Дума (1534-1537). А другая вайна, што трывала ад 1558 па 1570 год была названая вайною за Лівонію і ў ёй асаблівымі вайсковымі здольнасьцямі вызначыўся быў Геранім Ходкевіч. У гэтую вайну быў Іванам Чацьвертым зруйнаваны Полацак і зьнішчаная вялікая бібліятэка ў Полацку.

# У БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІМ ЗАДЗІНОЧАНЬНІ

### У ГАЛОЎНАЙ УПРАВЕ БАЗА

17 лютага сёлета Галоўная Управа БАЗА мела сваё чарговае пашыранае паседжаньне разам з Акруговаю Управаю БАЗА ў нью-Ёрку, Управаю Беларускага Выдавецкага Фонду й Рэдакцыйнай Калегіяй газэты „Беларус". На паседжаньні абмяркоўваліся: сьвяткаваньне 39-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, супрацоўніцтва аддзелаў БАЗА із Галоўнай Управай, арганізаваньне 7-га Кангрэсу БАЗА, справа старшынства Камітэту набыцьця Беларускага Народнага Дому ў Нью-Ёрку, дапамаговая й іміграцыйная справы, удзел БАЗА ў акцыі пабудовы Амэрыканскага Музэю Іміграцыі Статуі Свабоды, супрацоўніцтва з Беларускай Сэкцыяй радыя „Вызваленьне" й рад іншых бягучых арганізацыйных справаў.

### 7-мы КАНГРЭС БАЗА

У канцы мая сёлета канчаецца кадэнцыя цяперашняй Галоўнай Управы БАЗА. На паседжаньні Управы 17 лютага было пастаноўлена склікаць 7-мы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Амэрыцы на дзень 30 траўня й правесьці яго ў Нью Ёрку. Мэтай Кангрэсу, як і раней, будзе разгляд вынікаў дзейнасьці БАЗА за апошнія два гады, разьвязаньне актуальных арганізацыйных і грамадзка-нацыянальных пытаньняў ды выбары новай Галоўнай Управы БАЗА. Дакладнейшыя інфармацыі аб 7-ым Кангрэсе БАЗА будуць надрукаваныя ў наступным нумары „Беларуса".

---

**Акруга Нью-Ёрк** зарганізавала традыцыйны вечар сустрэчы Новага 1957 году, на якім людная беларуская грамадзкасьць весёла, пры супольным стале, сустрэла Новы Год.

14 студзеня была зладжаная Акруговай Управай ялінка для дзяцей. Дзеці цешылі гасьцей дэклямацыямі й каляднымі песьнямі. Не забыўся пра іх і сёлета Дзед Мароз, які забавіў дзетак цікаваю гутаркаю ды абдзяліў іх смачнымі й прыгожымі падарункамі. Найбольш удзел у зарганізаваньні сёлетняй ялінкі ўзялі маткі нашых дзяцей спадарыні Н. Рагуля, Курыла і М. Станкевіч, а ў здабыцьці падарункаў вялікую паслугу выказала спадарыня Андрыца, за што ўсім вялікая падзяка ад Акруговай Управы й дзетак, што былі на ялінцы.

Цяпер Управа Акругі Нью Ёрк занятая пераважна падрыхтоўкай сьвяткаваньня 39-ых угодкаў 25 Сакавіка.

### У СПРАВЕ НАБЫЦЬЦЯ БНД У НЬЮ ЁРКУ

Камітэт набыцьца Беларускага Народнага Дому ў Нью Ёрку ветліва заклікае Беларусаў у Амэрыцы уплачваць удзел у Фонд, каб купіць вельмі патрэбны Беларускі Народны Дом у Амэрыцы.

Грошы просіцца пасылаць на адрыс:

Mr. D. Klincevich, 1148 Blake Avenue, Brooklyn 8, N. Y.

Ад верасьня 1956 г. да сяньня заплацілі на БНД наступныя асобы, якім Камітэт складае шчырую падзяку:

| | | |
|---|---|---|
| 84. | Усяслаў і Рагнеда Грынкевіч, Філядэльфія | $ 50.00 |
| 85. | Андрэй Стрэчны, Кліўленд | $ 20.00 |
| 86. | Л. А. | $ 25.00 |
| | Сума папярэдніх сплатаў | $ 4.533.29 |
| | Разам сплачана дагэтуль | $ 4.628.29 |

**Камітэт набыцьця БНД у Нью Ёрку**
Нью Ёрк, Люты 1957.

### КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫЯ ВЕЧАРЫ У НЬЮ ЁРКУ

Раз на месяц Акруговая Управа БАЗА ладзіць культурна-асьветныя вечары. У гэтым годзе адбылося іх ужо два. На першым, што быў 20 студня, культурна-асьветны рэфэрэнт БАЗА др. Я. Станкевіч меў лекцыю на тэму „Беларускае нацыянальнае адраджэньне 1902-1915 гадоў". Сп. Я. Гладкі меў гутарку аб калядных звычаях на Беларусі, сп. сп. А. Шукелайць і М. Кунцэвіч дапоўнілі гэтую гутарку собскімі ўспамінамі, а сп. А. Адамовіч памастацку прачытаў паэму Я. Купалы „На куцьцю".

На другім вечары, 23 лютага, др. Я. Станкевіч меў лекцыю на тэму „Гісторыя Беларусі подле п. М. Ульянава (зьбіцьцё хвальшывых цьверджаньняў ягонага рэфэрату з 27 студня сёлета)".

Кажны раз перад рэфэратам бывае жывая газэтка, у якой падаюцца важнейшыя навіны із сьвету, з жыцьця Беларусаў і арганізацыйнай дзейнасьці.

Пасьля рэфэратаў заўсёды бываюць жвавыя дыскусіі ды ўсялякія выступленьні Беларусаў — старых эмігрантаў, найчасьцей нясьведамых нацыянальна.

Добрая рэч гэтыя вечары, але пажадана, каб нятолькі др. Янка Станкевіч чытаў рэфэраты, а й іншыя, ды каб праграма вечароў не абмяжавалася чыста навуковым зьместам, а насіла больш грамадзкі й бытавы характар. Тады, пэўна, больш нашых суродзічаў наведвала-б вечары, бо дасюль, трэба сказаць, наведваньне гэтае, нажаль, ня вельмі людное.

### У КЛІЎЛЕНДЗЕ

31 сьнежня Управа Кліўлендзкага Аддзелу БАЗА зладзіла супольную сустрэчу новага 1957 году. Людна пры супольным стале й пад гукі аркестры „Палесьсе" прайшоў вясёлы вечар.

30 сьнежня наладжаны быў першы вечар беларускае гісторыі й культуры. Сп. А. Каханоўскі прачытаў рэфэрат на тэму „Каляды ў Беларусі". Рэфэрат быў вельмі цікавы й шмат каму ўспомніў мінулыя гады жыцьця на бацькаўшчыне Беларусі.

Як і ў папярэднія гады, так і сёлета, Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Кліўлендзе зарганізавала абход беларускіх сем'яў з калядной зоркаю. Усюды шчыра віталі калядоўшчыкаў ды дзякавалі за прыгожы сьпеў калядных песень. Усё добра прайшло таму, што сп. К. Кіслы належна падрыхтаваў калядоўшчыкаў ды што ўсе ўдзельнікі калядной зоркі так ахвярна працавалі для дабра сваёй арганізацыі.

12 студзеня адбылася ялінка для дзяцей і моладзі. Упачатку была мастацкая частка дзяцей, якую ўдала падрыхтавалі ў часе заняткаў беларускай школкі ў Кліўлендзе сп. сп. К. Кіслы й В. Шчэцька. Школьны хор пяяў калядныя песьні, дзеці выступалі з дэклямацыямі, малады акардыяністы Оля Дубаневіч і Юрка Лазар цешылі прысутных музыкай, хор моладзі выканаў „Бэтлейку" і „Неба й зямля", а спадарычна Іра Каляда з хорам удала прапяяла „Ціхая ноч". Пад канец прыбыў і дзед мароз, з падарункамі не адно для дзяцей, але й для моладзі й старэйшых. Калядная ялінка прайшла запраўды ўдала, бо добра і доўга рыхтаваліся да яе і настаўнікі і бацькі.

17 лютага адбыўся гадавы сход сяброў Аддзелу БАЗА ў Кліўлендзе. Пасьля справаздачы старшыні аддзелу сп. М. Латушкіна была выбраная новая ўправа на наступную кадэнцыю ў складзе: В. Шчэцька — старшыня, Сяргей Карнілавіч — заступнік, Віктар Сыпічонак — сакратар, Астап Яраховіч — скарбнік, Кастусь Калоша — культурна-асьветны рэфэрэнт.

### У ДЭТРОЩЕ

У пачатку лютага сёлета адбыўся гадавы сход сяброў Аддзелу БАЗА ў Дэтройце. Пасьля справаздачы зь дзейнасьці аддзелу за мінулы год і дыскусіі сход выбраў новую ўправу аддзелу ў складзе: мгр. Васіль Пляскач — старшыня, Мікола Пруські — сакратар, Мікола Кумэйша — скарбнік.

## У АДДЗЕЛЕ САУТ-РЫВЭР НЬЮ БРАНСВІК

### ЦАРКОЎНЫ СХОД

27-га студзеня сёлета адбыўся сход прыхажанаў БАПЦарквы ў Саўт-Рывэры — Нью Брансвіку. Па справаздачы старшыні Царкоўнае Рады сход, з увагі на пачатыя стараньні Рады набыць уласны царкоўны будынак перавыбраў Царкоўную Раду ў тым самым складзе.

Скарбнік сп. К. Паінфармаваў прысутных што за год часу каса мела абароту звыш двух тысяч даляраў, З чаго прыблізна чацьвёртая частка гэтай сумы знаходзіцца ў касе як чысты даход.

Справа Царквы найпільнейшая ў нашай ваколіцы. Як паведаміў Старшыня Царкоўнае Рады, Гарадзкая Управа Нью Брансвіку прырэкла ўжо пляц, але гэты пляц мае недагоднасьці й таму давядзецца з будовай царквы крыху пачакаць.

### ЯЛІНКА

З нагоды каляд і звычаем мінулых гадоў Жаночая Сэкцыя БАЗА ладзіла 12 студзеня с. г. ялінку для дзяцей і вячэру — пачастунак. Гарманісты сп. Б. даказаў на сваім акардыёне, што ня толькі патрапіць граць польскі ці вальсы, але ў перапынках паміж адным і другім танцам дапаможа прыемна і вясёла правясьці час граючы народныя і патрыятычныя беларускія песьні. Прысутныя захопленыя роднымі мэлёдыямі ўлучаліся сваім сьпевам у ягонае граньне.

Належыцца аддаць пашану сяброўкам Жан. Сэкцыі за смачную і багатую вячэру.

Вельмі слаба выпала мастацкая частка з выступам дзяцей. А шкада! — гэта-ж мела быць ялінка для дзяцей. У будучыні на гэта трэба зьвярнуць больш увагі. А можна было зрабіць гэта вельмі лёгка. Адно больш арганізацыйнага падыходу да падобных імпрэзаў з боку арганізатараў.

### ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

Ня ўсе нашыя сябры належна рупяцца падтрымваць газэту „Беларус". Іншыя чамусь адмаўляюцца даваць складкі на Фонд, падаючы розныя „прычыны". Аднак, агульны вынік не благі. У 1956 годзе сабрана на Фонд 120 даляраў. Трэба каб кажны, хто чытае газэту „Беларус" парупіўся і аб складках на яе.

---

### ГАДАВЫ БАЛЬ

Галоўная Управа Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня й Управа Беларускага Выдавецкага Фонду зладзілі 9-га лютага сёлета гадавы баль. Дзякуючы добраму рыхтаваньню, вечар прайшоў вельмі ўдала й прынёс вялікае задаваленьне і тым, хто быў на балі, і арганізатарам яго.

Лепш, як заўсёды, прайшла лятарэя, якую зладзілі спадарыні-сяброўкі БАЗА. Фанты ў лятарэю заахвяравалі сябры БАЗА Нью-Ёрку, Саўт Рывэр — Нью Брансўіку, Стэмфорду й Джэрзы Сіты. Добра ўладжаны спадарынямі буфэт ды спраўна ведзены бар у поўнай меры задавалялі патрэбы вечару.

Галоўная Управа БАЗА і БВФ выказваюць шчырую падзяку ўсім спадарыням, спадарычнам і спадаром, якія дапамаглі зладзіць і так удала правесьці сёлетні гадавы баль БАЗА.

Увесь прыбытак з балю ў суме 539.94 даляраў прызначаны на Беларускі Выдавецкі Фонд у Амэрыцы.

## ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДЗЕ

19 і 20 студзеня сёлета адбыўся ў Торонта 8-ы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Зьезд разгледзеў дзейнасьць Згуртаваньня за мінулы год, выпрацаваў плян працы на будучыню й выбраў новую ўправу Згуртаваньня ў складзе: інж. Янка Бруцкі — старшыня ЗБК, сп. сп. др. Жук-Грышкевіч, Ніна Слаўко, Кастусь Акула й М. Маркевіч — сябры Галоўнай Управы.

### ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускае Народнае Рэспублікі гэтым падае свой новы адрыс:

RADA BNR
P. O. BOX 33
WILLIAMSBURG STATION
BROOKLYN 11, NEW YORK, USA.

На гэты адрыс просіцца накіроўваць карэспандэнцыю.

*Сакратарыят Рады БНР.*

---

**Рэдакцыя „Беларуса" ветліва просіць супрацоўнікаў прысылаць рукапісы ў газэту, друкаваныя на машынцы п р а з р а д о к, або пісаныя рукою на адным баку паперы з належнымі адступамі між радкамі.**





Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія
Падпіска на год — $ 2.50.
Subscription per year — $ 2.50